
Ліля ТАРАСЕВІЧ →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Сям'я Калодкаў →9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3342) Год LXV

Беласток, 31 мая 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Чым сябе абагрэеш?

Эксперты паведамляюць, што на змену клімату мела ўздзеянне дзейнасць чалавека, у першую чаргу асоб, якія вырашалі аб вялікіх інвестыцыях. У плане стрымлівання пацяплення Зямлі і яго адмоўнай паслядоўнасці найбольш могуць зрабіць цяпер урады самых развітых дзяржаў свету і кіраўніцтва самых буйных міжнародных карпарацый, якія займаюцца гаспадарчай дзейнасцю. Улады Еўрасаюза абавязваюць свае краіны абмяжоўваць выкарыстанне каменнага вугалю ў прамысловасці, паколькі падчас яго спальвання выдзяляецца вуглякіслы газ і моцна забруджваецца атмасфера. Патрабуюць таксама прымяняць штораз новыя тэхналогіі пры канструяванні новых мадэлей аўтамабіляў, аўтобусаў і грузавога транспарту дзеля памяншэння забруджвання асяроддзя выхлапнымі газамі. Апошнім часам перспектыўнымі становяцца аўтамабілі з электрычнымі рухавікамі. Прапануецца абмежаванне ў прамысловасці і ў бытавой сферы выкарыстання электраэнергіі і цеплавой энергіі, традыцыйная вытворчасць якіх выклікае адмоўнае ўздзеянне на клімат і прычыняецца да яго пацяплення. Ва ўсіх краінах Еўрасаюза вылучаюцца вялікія фінансавыя сродкі на даплаты да будовы ветравых і сонечных электраўстановак, а таксама гідраэлектрастанцый. Рэзультатам адмоўных змен у клімаце з'яўляецца засуха, але таксама буры і таму штораз больш жыхароў Еўрасаюза, у тым ліку і нашай краіны, падтрымлівае экалагічныя электраўстаноўкі, каб стрымаць адмоўныя змены.


Сонечныя электраўстаноўкі ў Гайнаўскім павеце

### Кліматычныя змены на нашай планеце

Вельмі адмоўнае ўздзеянне на наш клімат мае высечка і выпальванне лясоў. Лясы Амазоніі лічацца зялёнымі лёгкімі свету і, мяркуецца, што яны адказныя за вытворчасць каля 20% кіслароду у свеце. Таму так важнае для нашай планеты з'яўляецца захаванне іх у мала змененым выглядзе. Каля 60% амазонскіх лясоў знаходзіцца на тэрыторыі Бразіліі. Эколагі гэтай краіны паведамляюць сусветныя арганізацыі, што амазонскія лясы падпальваюцца наўмысна, каб паўстала адкрытая тэрыторыя, якую можна было б выкарыстоўваць для сельскагаспадарчых мэт, весці здабычу каштоўных мінералаў, а там, дзе лясы не выгараць, мець сыравіну для дрэваапрацоўчай прамысловасці. Выпальванне лясоў Амазоніі на вялікіх тэрыторыях вельмі шкоднае для натуральнага асяроддзя, перш за ўсё для клімату ўсёй нашай планеты. Сотні, а нават тысячы пажараў лясоў Амазоніі тушаць тысячы пажарнікаў, жаўнераў і валанцёраў. Лясы часта гараць таксама на вялікіх плошчах Афрыкі, гараць лясы і ў Еўропе. Нашы продкі сотні гадоў таму таксама мэтазгодна выпальвалі лясы, каб прыдбаць участкі для сельскагаспадарчай прадукцыі. Рабілі так між іншым у лясным комплексе паміж Бельскам і Гайнаўкай, чаго паслядоўнасцю было выдатнае абмежаванне плошчы Лядскай пушчы. Аднак у той час гаспадаранне на нашай планеце адбывалася па натуральных законах і не выклікала змен у клімаце.

У Нямеччыне, якой голас вельмі важны або нават вырашальны ў палітыцы цэлага Еўрасаюза, былі прыняты і паспяхова рэалізуецца новы план будовы шматлікіх ветравых і сонечных электраўстановак, а таксама гідраэлектрастанцый, як галоўны спосаб вытворчасці электраэнергіі з аднаўляльных крыніц, што не спрычыняецца да пацяплення клімату на нашай планеце. Аднак рэалізацыя такіх планаў патрабуе згоды большасці насельніцтва краіны, што адбылося ў Нямеччыне. Былі там таксама выпрацаваныя такія ўмовы будовы ветравых або сонечных электраўстановак, каб былі яны ўспрымальнымі для мясцовага насельніцтва, перш за ўсё была названа мінімальная адлегласць будовы электрагенератараў ад жылых дамоў. У Польшчы такія ўмовы не былі выпрацаваны ў ходзе грамадскіх кансультацый. Спачатку можна было будаваць вялікія ветраэлектрычныя ўстаноўкі непадалёк жылых дамоў і цэлых вёсак і іх будова выклікала ў розных кутках нашай краіны многа пратэстаў. Апошнімі гадамі будуецца ў нашай краіне штораз больш вялікіх сонечных электраўстановак, якія паявіліся таксама ў паўднёвай частцы Беласточчыны, каля мясцовасцей, дзе кампактна пражываюць беларусы.


Ветрагенератары ў Бельскім павеце

### Ветравыя і сонечныя электраўстаноўкі на Бельшчыне і Гайнаўшчыне

Перад 2015 годам у некаторых гмінах Бельскага і Гайнаўскага паветаў улады зрабілі стаўку на будову ветрагенератараў. Будова іх прычыняецца да абмежавання дзейнасці традыцыйных электрастанцый, у якіх для вытворчасці электраэнергіі выкарыстоўваецца вугаль, і прычыняецца да абмежавання пацяплення клімату на нашай планеце. Даплачвалі тады вялікія сродкі да будовы экалагічных электраўстановак. У гэты перыяд ветраэлектрычныя ўстаноўкі будаваліся ў Арлянскай і Бельскай гмінах. Калі ўжо ветравыя электраўстаноўкі сталі працаваць, частка мясцовага насельніцтва пачала адмоўна ўспрымаць працу ветракоў, як сталі называць ветрагенератары. Аднак большасць жыхароў названых гмін жыве ў большай адлегласці ад ветраэлектрычных установак. Падаткі ад ветрагенератараў папаўняюць гмінныя бюджэты і можна гэтымі сродкамі падтрымліваць мясцовыя інвестыцыі. Гмінныя ўлады былі прыхільнікамі будовы ветраэлектрычных установак таксама ў Чыжоўскай гміне. Аднак жыхары Чыжоў і Збуча завязалі камітэт пратэсту супраць планаў будовы ветрагенератараў непадалёк іх вёсак. Вялася акцыя збору подпісаў мясцовага насельніцтва пад пратэстам. Але ў тым часе быў зменены закон і намнога пабольшала мінімальная адлегласць ад ветрагенератараў да жылой забудовы і планы будовы ў Чыжоўскай гміне сталі неактуальнымі. Яшчэ перад пратэстам жыхароў Чыжоў і Збуча была задума будовы ветраэлектрычных установак паміж Новаберазовам і Старым Беразовам. Жыхары гэтых вёсак таксама сталі пратэставаць.

— Сваю петыцыю мы абгрунтавалі шкоднасцю ветрагенератараў для здароўя мясцовага насельніцтва і шкоднасцю для птушак. Рэгіянальная дырэкцыя аховы асяроддзя ў Беластоку, беручы пад увагу нашы аргументы не дала згоды на будову згаданых ветраэлектрычных установак, — сказала член групы пратэсту.

Такіх пратэстаў у нашай краіне было многа і таму ўлады павялічылі мінімальную адлегласць будовы ветрагенератараў ад жылых дамоў.

Апошнімі гадамі ў Гайнаўскім павеце каля вёсак былі пастаўлены вялікія сонечныя электраўстаноўкі, уласнікі якіх атрымліваюць фінансавую падтрымку і разлічваюць на яшчэ большы прыбытак у будучыні, калі цэны электраэнергіі хутчэй за ўсё будуць расці. Вялікая фотавальтаічная ўстаноўка была збудавана каля вёскі Дубіны Гайнаўскай гміны і даволі вялікая такая ўстаноўка паўстала каля вёскі Грабавец Дубіцкай гміны. Ідзе падрыхтоўка да будовы фотавальтаічных установак на Гайнаўшчыне непадалёк іншых вёсак і няма пратэстаў мясцовага насельніцтва супраць такіх інвестыцый. Невялікія сонечныя ўстаноўкі, па некалькі фотавальтаічных панэляў, паставілі жыхары нашых вёсак на сваіх панадворках.

— Яшчэ не магу акрэсліць, які прыбытак можа прынесці мая нядаўна пастаўленая сонечная электраўстаноўка. Я мусіў выдаткаваць на гэтую інвестыцыю свае сродкі і пакарыстацца фінансаваннем да гэтай экалагічнай інвестыцыі. Не буду мусіў плаціць за электраэнергію, якой карыстаюся, а лішак электраэнергіі будуць купляць ад мяне, — сказаў жыхар падгайнаўскай вёскі, які паставіў такую невялічкую сонечную электраўстаноўку на сваім панадворку, непадалёк ад жылога дома. Раней жыхары вёсак і гарадоў Гайнаўшчыны ставілі на дахах сонечныя панэлі, якія выкарыстоўваюцца для абагравання вады ў дамах у час, калі тыя не ацяпляюцца.

Звычайна жыхары нашых вёсак і гарадоў па-свойму змагаюцца з засухай і паслядоўнасцю кліматычных змен.

— Я хачу пасеяць у траву на сваім панадворку насенне шматлікіх відаў невысокіх кветак, якія, калі разрастуцца, прытармажваюць рост травы. Калі на панадворку і ў садзе разрасліся б гэтыя кветкі ў траве, можна было б іх не касіць вясной і летам, ажно пачнуць сохнуць, — заявіў мой суразмоўца, якому надакучыла ўжо хадзіць за касілкай па вялікім панадворку.

Газоны з вялікай колькасцю кветак дапамагаюць захаваць сырасць у глебе. Эксперты па змаганні з адмоўнай паслядоўнасцю кліматычных змен рэкамендуюць разбіваць такія газоны ў гарадах і вёсках. Старэйшым вяскоўцам някошаныя меліярацыйныя равы паказваюцца безгаспадарнасцю. Аднак равы зарастаюць кустамі і гэта прытармоўвае адплыў вады з палёў і абмяжоўвае адмоўнае ўздзеянне засухі на сельскагаспадарчую вытворчасць. Штораз больш жыхароў гарадоў і вёсак рашаюцца эканоміць ваду падчас штодзённага карыстання. Яшчэ з мінулага стагоддзя захоўваецца ў нашых вёсках прывычка збіраць дажджавую ваду для падлівання агародніны або кветак у агародчыках. Гэта асабліва важнае ў апошнія гады, калі летам у калодзежах не хапае вады, каб паіць кароў.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





# Выбарчыя інтрыгі

Беларусь чарговы раз увайшла ў перыяд выбарчай гонкі, або гону. Не ведаю як больш правільна. Бо калі гаворыш, што выбіраць будуць прэзідэнта краіны, то сапраўды хочацца зрабіць сур'ёзны выраз. Але ўжо на слове „выбіраць" чамусьці ў большасці людзей з'яўляецца ўсмешка. Не даходзіць размова нават да таго, каго там будуць выбіраць.

Зрэшты, лепей па парадку. За прэзідэнцкае крэсла гэтым разам сталі змагацца больш пяці дзясяткаў чалавек. Ніколі не думаў, што так многа людзей мяркуюць, што яны здольны кіраваць цэлай краінай. Але, хіба што, паглядзеўшы як гэтай краінай кіруюць ужо не адно дзесяцігоддзе, у вялікай колькасці людзей натуральна з'яўляецца перакананне, што так кіраваць можа кожны. Ну, адпаведна, і яны напэўна змогуць.

І вось ужо пяцьдзясят пяць чалавек падалі на рэгістрацыю свае ініцыятыўныя групы. І гэта не ўсе, што хацелі. Нехта за кратамі быў і адтуль не дацягнуўся да Цэнтральнай выбарчай камісіі, нехта не хацеў патрапіць за краты і таму не рызыкнуў з той камісіяй звязвацца. Усё адно рэкорд. Такой колькасці прэтэндэнтаў нават на спадчыну мільянера не заўсёды знаходзіцца. Дык там хоць спадчына ў мільёны. А тут пераможцу дастануцца адны дзяржаўныя пазыкі. Але ўсё адно ахвотных як блох у шалёнага сабакі.

Здавалася, што дзеючая ўлада акурат баіцца адваротнага. Баіцца, што ніхто не падасць дакументаў і пакіне яе на выбарах у ганаровай адзіноце самую з сабой. Таму яна, улада, заўсёды рыхтавала аднаго-двух так званых спарынг-партнёраў, на ўсялякі выпадак, дзеля выгляду масавасці прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла. Выбары ж прадугледжваюць, што выбіраць трэба. А тут на табе, пяцьдзясят пяць. І рыхтаваць аніякіх партнёраў не трэба было. Самі нарыхтаваліся. Аніхто такога і спрагназаваць не змог.

Ды ніхто і не збіраўся ні прагназаваць, ні аналізаваць. Аб'ядналая апазіцыя ў старых даўнішніх традыцыях, якія заўсёды прыводзілі да паразы, нават праймерыз правяла, каб выбраць са сваіх шэрагаў усяго аднаго адзінага. У выніку гэтага выбару „адзінага" кандыдатаў стала больш, чым было прэтэндэнтаў напачатку праймерыза. Ну хоць весела.

Але на гэтым не скончылася. Прэтэндэнты павылазілі адусюль, адкуль толькі можна. Партыйныя і беспартыйныя, вядомыя і абсалютна невядомыя персанажы, набліжаныя ў нядаўнім да ўлады чыноўнікі і аддаленыя ад улады апазіцыянеры, усе лічаць, што змогуць кіраваць краінай не горш, чым сённяшняя ўлада.

Але і сапраўды, ці цяжка гэта?! Вось, прыкладам, на пасяджэннях па ўтварэнні выбарчых камісій па ўсёй краіне было вырашана ў сувязі з пандэміяй абысціся без наведвання тых пасяджэнняў прадстаўнікамі партый і назіральнікаў. Але ж заканадаўства патрабуе галоснасці. Ну то для тых назіральнікаў былі арганізаваны відэатрансляцыі. І што тут пачалося! Дзесьці пішчала, недзе трашчала, у іншым месцы малюнак размываўся, а там-сям і ўвогуле трансляцыя абарвалася. Аказалася, што арганізаваць трансляцыю цяжэй, чым краінай кіраваць. Бо краінай неяк жа кіруюць, а з трансляцыямі складанасці. Здавалася б, зараз кожны школьнік можа арганізаваць такую трансляцыю са свайго мабільніка ў рэжыме анлайн. А тут на табе.

Ці вось, як пачалася тая пандэмія, усе краіны кінуліся хто як можа прымаць меры бяспекі для грамадзян, бізнес ратаваць сталі, хто лепш, хто горш, грошы сталі шукаць для тых, хто на каранціне, і розныя іншыя меры прымаць. А ў нас грамадзяне заняліся гэтым усім самі. Ну то хто не захоча ўзначаліць такую краіну.

Хіба што і сапраўды такой краінай кіраваць не так ужо і складана. Напэўна таму і ахвотных хоць адбаўляй.

Зрэшты, ЦВК і адбавіла. А то куры смяяцца пачнуць! Пяцьдзясят пяць чалавек на адно месца! Гэта вам не жарты! Дзе яшчэ такія конкурсы бываюць?! Непарадак! Пакінулі пятнаццаць. Самых бездакорных у плане афармлення сваіх ініцыятыўных груп. Гэта дваццаць сем адсоткаў ад пададзеных. Яшчэ адзін рэкорд. Ды і так па-людску аднесліся. Навошта іх столькі?! Краінай то, як высвятляецца, і самым кіраваць не цяжка.

А зараз інтрыга заключаецца ў тым, чые сто тысяч подпісаў зарэгіструюць. Вось і інтрыгу нейкую знайшлі. Бо як няма інтрыгі ў канчатковым выніку, то хаця б у працэсе яны патрэбны.

Віктар САЗОНАЎ

# Бывай, да заўтра

Я доўга недаацэньваў нахабную прысутнасць Эгона Паскудніка ў маім жыцці. Вось так я назваў сваё эгаістычнае і, такім чынам, брыдкае альтэр-эга. Я думаю, што ўсе людзі маюць альбо будуць мець справу з ім, як бы яны ні называлі яго. Я не сумняваюся, што Аляксандр Лукашэнка і Яраслаў Качынскі змагаюцца з ім; і праслаўуты Сашка Быкаў і Янэк Кавальскі, незалежна ад таго, што яны робяць штодня, і не буду згадваць пра іх жонак, што патрабуе акцэнту, бо я прыхільнік гендэрнай роўнасці, нават у такім агідным кантэксце, як постаць Эгона Паскудніка ў яго жаночым увасабленні. Акрамя таго, парадыгма гендэрнай роўнасці выклікае шмат спрэчак з нагоды нядаўніх навуковых адкрыццяў, паводле якіх налічваецца да пяці чалавечых полаў, а па некаторых нават сем. Ці я прыхільнік роўнасці, магчыма, усіх сямі полаў? А што пра мутацыі Эгона, прыпісаныя ім?

Што тычыцца Эгона Паскудніка, ён, несумненна, нараджаецца і выспявае ў цені нашага несвядомага, у самай унутранай частцы чалавека — у невядомасці. Толькі што невядомае паступова становіцца вядомым, як і прысутнасць Эгона Паскудніка, які дзейнічае ў кожным чалавеку, адкрыццё якога можа давесці да галаўнога болю. Таму што лішак — гэта лішак. Гэтак жа, як і лішні секс у нашым традыцыйна двухполым жыцці. Хаця я ўспомніў шакіруючую інфармацыю, што на Зямлі існуе істотка, колькасць полаў якой дасягае 136... Фактычна, ён існуе. І прама ў нас. Спачатку мы яго не заўважаем, таму што ён не турбуе нас, нягледзячы на тое, што гэта сварлівы і хімерны кампаньён. Толькі з часам, калі ён усё больш і больш турбуе нас — таму што мае бурную, капрызную, эмацыйную і патрабавальную прыроду — мы пачынаем адчуваць трывогу. Ён расце, і той Эгон пераймае нас. І чым больш ён узурпуе, тым больш расце яго сіла, навязваючы нам сваё адвольнае бачанне свету і сваё стаўленне да іншых людзей. Здараецца, што такі Эгон забірае сабе ўсё з чалавека, яго эгаістычны гонар, не маючы іншага выхаду, раптам сыходзіць з цялеснай абалонкі навонкі. Гэта вельмі дрэнна. І яшчэ горш, калі Эгон прэтэндуе на вялікага палітыка. Тады гэта вельмі, вельмі дрэнна. Бо тады здараецца, што парывае за сабою натоўпы людзей, якія, не маючы па вызначэнні сваёй аўтаноміі, знаходзяць сваю ідэнтычнасць у парожніх лозунгах, якія ён адвольна абвяшчае.

Часам мы цішком глядзімся ў люстэрка, усё яшчэ няпэўна, хто мы на самой справе. Часам гэта становіцца нашай апантанасцю, якой засланяем трывогу за нашу ўласную аўтаномію. На шчасце, мяне абмінула гэтая слабасць. Тым не менш, я ўбачыў фізічную форму майго Эгона зусім нядаўна. І не ў люстэрку, а ў сне. Ва ўсякім разе, у чым розніца? Мабыць, сны з'яўляюцца люстэркамі нашай несвядомасці. Ва ўсякім разе, я баюся бачыць яго такім, якім ён быў тады. Ён перавышаў мяне постаццю лесаруба, а таксама панаваў нада мной сваёй агрэсіўнай прысутнасцю, увесь час патрабуючы нешта для сябе, заяўляючы аб сваіх няправільных рацыях. Нарэшце, калі ён бязлітасна адабраў у мяне голас розуму і пачаў гаварыць настолькі арбітральна, як і занадта эмацыйна быццам бы ад майго імя, я не стрымаў гэтага і катэгарычна пазбавіўся ад яго. Проста так, пстрык і ўсё! Радыкальна. Раз і назаўсёды. Беззваротна. Да майго здзіўлення, аказалася гэта працейшым, чым я думаў. Я чакаў, што ён будзе супрацьстаяць маёй волі ўсімі даступнымі спосабамі. У тым ліку і псіхалагічным гвалтам. Эгон, аднак, саступіў пакорліва, каб не сказаць баязліва. Праўда, ён усяляк спрабаваў усхваляваць мяне, выклікаць раскаянне, абвінаваціць мяне ў сваіх агідных паводзінах, але я застаўся непахісным. Дзякуючы гэтаму я адчуў сябе свабодным! Сёння я гляджу на свет такім, які ён ёсць. І на людзей такімі, якія яны ёсць. Іншая справа, што я не зусім перакананы, што хацеў бы бачыць іх такім чынам. Я не сумняваюся, аднак, што свет і людзі не з'яўляюцца прынцыпова злымі. Іншая справа, што яны таксама не вельмі добрыя. Тое, што адбываецца як «свет» альбо «чалавек», з'яўляецца толькі вынікам многіх сіл, тэндэнцый і магчымасцей, якія часта супрацьпастаўляюць адзін аднаму і не да канца прызнаюцца ў іх прычынна-выніковым парадку, паколькі яны выходзяць толькі з невядомасці. Такім чынам яны паказваюць сябе тут і зараз, не такімі, якімі яны ёсць на самай справе, але, як бачыць іх дэфектнае ўспрыманне. Свет без Эгонаў лепшы. І людзі таксама.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Без майскага цяпла

Можа і абрыдне нашым чытачам ізноў у гэтым месцы чытаць пра цывілізацыйную, камунікацыйную пустыню Гайнаўкі і яе наваколля. Ну, але чалавека проста бяруць не толькі нервы, але і злосць на ўсіх самаўрадавых уладароў, якім звычайна да лямпачкі поўная адсутнасць суботне-нядзельнага транспарту з гэтай мясцовасці ў беластоцкім напрамку. Ні прыехаць, ні ад'ехаць. Каранавірус каранавірусам, але гайнаўскія бургамістр і староста не павінны спаць у шапку, а толькі старацца дамовіцца з камунікацыйнымі фірмамі. Гэта ж іхні абавязак развязваць грамадскія праблемы сваіх жыхароў, а не нейкая ласка. Але тут выразна відаць разыходжанне паміж пабачаным, а абяцаным у час выбараў. У пералёце дзесьці я пачуў, што ваяводская ўправа ізноў аб'явіла конкурс на дафінансаванне аўтобусных маршрутаў да выключаных у камунікацыйным плане мясцовасцей. Неўзабаве даведаемся, ці ў гайнаўскіх чыноўнікаў хопіць сіл і ўяўлення, каб заняцца гэтай справай. Аднак сумняваюся, бо ў выказваннях шафёраў і пасажыраў рэйсавага аўтобуса прыватнай фірмы ў пятніцу ў адрас кіраўніцтва горада і павета не плылі словы ўдзячнасці. А тлумачэнне, што няма грошай, не зусім да канца абгрунтаванае. Але сённяшні фельетон меў быць пра цяпло і прыроду, таму прабачце за ўступ, які наспеў ад гневу пасля нядзельнага вечаровага вяртання ў Беласток, дзякуючы дапамозе знаёмых. Мінае месяц май, а мы майскага цяпла проста пакуль зусім не пачулі. Рамантычная, паэтычныя лірыка майскай прыгажосці прабіваецца да нас толькі ва ўспамінах, з радкоў вершаў і кадраў кінастужак. У рэальнасці было некалькі сонечных дзён, калі тэмпература не перавысіла дваццаці градусаў. Затое халодныя агароднікі, ці зімнія „Зоські" пераможна накінулі ў гэтым годзе свае правілы гульні на даўжэйшы перыяд. Нікуды не дзенешся ад прымаразкаў і парывістых халодных вятроў, што нясуць з сабою пранізлівы холад. На балкончыку ў гарадской кватэры завесіў я некалькі скрынак з прыгожымі рознакаляровымі кветкамі. Аднак цягам дня прыўважыў, што ветранае надвор'е проста прымарожвае далікатнае квітненне. Не заставалася нічога іншага, як перанесці кветкі ў кватэру, дзе і да гэтай пары займаюць там месца. Дарэчы, у кватэрах зараз такі холад, што проста чалавека часам аж страсяне. Вобраз цёпла апранутых у світар ці спартыўны касцюм жыхароў блокаў зараз нікога не здзіўляе. У майго брата ў Гайнаўцы жыллёвы кааператыў проста назад уключыў абагграванне. Пра такія патрабаванні ад жыхароў чуў я і ў Беластоку, але нічога не атрымалася. Затое ў роднай, бацькоўскай хаце поўным ходам ідзе амаль штодзённае майскае перапальванне ў печках пасля абеду. Ну, вядома, апрача таго агонь гарыць з раніцы пад кухоннай плітой, на якой варацца стравы. Але паўсюдны навокал холад трэба проста выганяць з хаты яшчэ абагграваннем. Тут мой бацька чарговы раз даказаў мне ў размове важнасць печкі ў чалавечым жыцці. Я абсалютна быў з ім згодны, асабліва калі мой брат пратапіў пад мой прыезд аж дзве печкі з адной мэтай, каб я адагрэўся пасля беластоцкай халадэчы ў кватэры. Ой як мне стала добра. Але і аднячасна парадаксальна. За акном квітнеюць фруктовыя дрэвы, ліловы бэз урэшце расцвіў і вабіць сваімі колерамі і пахам, а тут яшчэ хату абаграваць прыходзіцца быццам у перыяд Раждаства Хрыстовага, хаця вітаемся словамі Хрыстос Уваскрос. От табе і маеш. Добра, што прынамсі ў пушчанскім кутку не падвялі майскія святкаванні Міколы. Бо згодна з традыцыяй пайшоў дождж, які прынёс жыццядайную вадзіцу тутэйшым загонам. А на загонах пакуль усё прыглухлае і затухлае. Бо каб расці і буйнець, патрэбная яшчэ адна рэч — майскія цёплыя дажджы і ночы. Без гэтага прыродна-народны цыкл застанецца толькі абрадавым успамінам і не прынясе задавальнення карпатлівым гаспадарам і гаспадыням, якія ў зямлі знаходзяць сэнс сваёй зямной прысутнасці.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Калі вучні хочуць прымаць удзел у занятках, удзельнічаюць у конкурсах, тады няма ніякіх складанясцей, адно сэрца радуецца

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я не думала, што буду настаўніцай беларускай мовы. Мову я заўсёды любіла, вывучала яе ў пачатковай школе, пасля ў ліцэі і калі трэба было выбраць вышэйшую ўстанову, то падумала: „А чаму мне не вучыць дзяцей беларускай мове?” Я заўсёды хацела вучыцца ў вялікім горадзе. Для мяне, вясковай дзяўчыны, гэта была вялікая мара. Таму я паступіла на беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце, а пасля заканчэння навукі стала настаўніцай беларускай мовы ў Семяноўцы.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Для мяне кожны настаўнік беларускай мовы — ідэал. Я думаю, усе яны адданыя сваёй працы, робяць усё, каб прыцягнуць вучняў на свае ўрокі. Вельмі добра ўспамінаю настаўніцу з пачатковай школы Марыю Стоцкую, якая вучыла пісаць першыя літары і чытаць «Буквар».

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Вядома, супрацоўнічаю. Настаўнікі беларускай мовы гэта маё асяроддзе, мы ведаем адзін аднаго па імені і прозвішчы. Гэта Анна, Тамара, Ярак, Янэк, Марыя, Люцына, Беата, Валя...

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Тыднёвік «Ніва», «АБ-БА», БГКТ, Радыё Рацыя.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У гэтым годзе няма.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Дэкламатарскі конкурс «Роднае слова».

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Калі патрэбная дапамога, мы заўсёды можам лічыць на дапамогу бацькоў і асяроддзя.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Калі вучні хочуць прымаць удзел у занятках, удзельнічаюць у конкурсах, тады няма ніякіх складанасцей, адно сэрца радуецца.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**



**Ліля ТАРАСЕВІЧ** — дырэктар ПШ у Нараўцы. Першую адукацыю здабыла ў Семяноўцы, далей паступіла ў Гайнаўскі белліцэй і закончыла беларускую і рускую філалогіі на Варшаўскім універсітэце. З 1991 года стала працаваць настаўніцай беларускай мовы ў Семяноўцы, пяць гадоў кіравала гэтай школай, а пасля стала намеснікам дырэктара Комплексу школ у Нараўцы. З 2018 года працуе дырэктарам ПШ у Нараўцы.

— На маю думку за тры гадзіны можна зрабіць усё, што запланую. Цяпер дапамагаюць прылады: інтэрактыўныя дошкі, праектары, камп’ютары. Дзякуючы тэхніцы ёсць магчымасць мадэрнізаваць метады працы.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне дзевяць лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Мы бачым, як у апошнія гады мяняецца мадэль навучання. Няма ўжо гімназіі, уваходзяць новыя праграмы. Падручнікі не заўсёды дапасаваныя да сучаснасці. Нам, настаўнікам, трэба праявіць ініцыятыву, вынаходлівасць, інакш застанемся ў хвасце...

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Я вучу ў I-II класах і мой любімы падручнік гэта „Лемантар” аўтарства Аліны Ваўранюк.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Ларыса Геніюш.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна чытаю «Полымя роднае» Уладзіміра Гайдука.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так, асабліва любім чытаць «Ніву».

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Фестывалі «Беларуская песня» і «Бардаўская восень».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляю, і на літаратурнай мове, і на мясцовай гаворцы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Памятаю адно добрыя рэчы і здарэнні.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Палохае мяне каранавірус, усе гэтыя абмежаванні і здагадкі. Ніхто не ведае як будзе выглядаць жыццё пасля эпідэміі, з якімі складанасцямі прыйдзецца нам змагацца.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Ганаруся ўсімі выпускнікамі. Яны цудоўныя, здольныя, працавітыя людзі.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так, многа разоў я атрымала ўзнагароду дырэктара школы і войта Нараўчанскай гміны.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу і натхненне дае мне сям’я, удзячнасць вучняў і бацькоў. Тады хочацца жыць і працаваць.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Смех і радасць маіх вучняў.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Герб Польшчы, герб Беларусі і васількі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Ад нас саміх будзе залежаць будучыня, ад маладога пакалення, ад іх адносін да спадчыны і сваіх продкаў.

Апытальнік правяла **Ганна КАНДРАЦЮК**

# Ваеннае тулянне

**Ян КАВАЛЬСКІ** з Кашалёў, народжаны 20 мая 1925 года ў Шчытах-Дзенцялове, амаль цэлую вайну правёў здалёк ад роднага дома. Калі вярнуўся з фронту, дом стаяў, але з бацькамі і сястрою пабачыўся толькі пасля 15 гадоў у Беларусі.

Вось яго ўспамін, запісаны летам 2006 года:

Як пасля рускіх прыйшоў у Шчыты немец, то адразу сталі вывозіць на прымусовыя работы. Найперш бралі быццам старэйшых, якія вярнуліся з Данбаса, заагітаваныя туды заробкамі ў савецкіх шахтах.

Мяне вызначыў солтыс замяж сваёй дачкі. Спачатку трымалі нас тры дні ў Бельску, у агромным хляве на нейкім панадворку. А пасля завезлі ў Ангербург (Вэнгажэва). Там праз тры дні капалі бульбу ў нямецкіх гаспадароў. Мой гаспадар Дрэслер быў ужо пажылым чалавекам. Жыў з дзвюма дочкамі і адным сынам — „вар'ятам"; другі сын быў у войску, загінуў пасля каля Сувалкаў. Малодшы брат майго гаспадара валодаў стогектаровым маёнткам на Украіне. Некалькі разоў прыязджаў і расказваў, якая на Украіне добрая зямля. Пасля, калі наступаў фронт, больш ста кіламетраў уцякаў пяшком.

На работах разам са мною быў адзін паляк з захаду і дзяўчына з Аўгустава. Працавалі мы там аж да 20 снежня 1944 года. Перад фронтам немцы пачалі выязджаць, пакідалі дабытак, але нас забралі з сабою.

Даехалі да нейкай мясцовасці, дзе ўспыхнула паніка, выкліканая пагалоскай, што наваколле акружаюць саветы. З'ехалі з дарогі, пад касцёл, дзе паднерваваныя вайскоўцы палілі нейкія дакументы. Усе ўвайшлі ў той касцёл. Раптам мой гаспадар загадаў мне выйсці навонкі і выкінуць з яго воза пісталет, які ён там пакінуў. Я хвіліну падумаў і шапнуў калегам, што калі адтуль выйду, то адразу ўцяку. Як мог я забраць той пісталет, калі вакол поўна войска і вядома было, як жаўнеры зрэагуюць, калі пабачаць мяне з ружжом? Выйшаў я, а са мною яшчэ дзве асобы. Укралі з фуры па слоіку яды і хутка адышлі, каб неяк аддаліцца ад фронту і накіравацца ў дамашнім напрамку. Але нічога з таго не атрымалася — немцы затрымалі нас і пагналі ў мясцовасць над самой Балтыкай, дзе было каля трох тысяч людзей, якіх бралі капаць акопы. Былі там і савецкія палонныя. Трымалі нас у нейкім маёнтку. Спалі дзе папала, а штодзённа па трыпяць асоб пamіралі. Чаму? Бо людзі былі недакормлены, змерзнутыя, перапрацаваныя. З калегамі зрабілі мы сабе нешта накшталт будана. Прывалаклі крыху бляхі, дзве бараны, нейкія пярыны і што там яшчэ знайшлося. Жылыя будынкі займала нямецкая адміністрацыя, а ў стадоле і аборы з каровамі не ўсе маглі змясціцца. Дарэчы, калі рана тыя людзі выходзілі з хлявоў, то цяжка было іх і людзьмі лічыць, усе былі брудныя і смярдзючыя ўрынай і памётам — але гэта іх ратавала ад холаду.

Як толькі ў канцы студзеня надышлі саветы, мы адразу ўцяклі. Найперш праз могілкі, пасля далей і далей, аж урэшце трапілі ў падвал аднаго з разбітых бомбамі будынкаў, недзе паблізу ракі, можа кіламетр ад мора. Было там шмат цывільных — нейкія французы, дзяўчаты, ну і нас траіх. Былі там і немцы — некаторыя хутка ўцякалі, іншыя пераапраналіся ў цывільную вопратку і аставаліся ў падвале. Пасля з'явіўся нейкі стары немец, які раіў нам хутка ўцякаць, бо неўзабаве ўзарвуць мост і немагчыма будзе эвакуіравацца. Але як адтуль выйсці, калі навонкі было ўжо чуваць рускую мову?

Адразу пасля ўзарвання таго моста прыйшлі саветы. Загадалі нам вылазіць з падвала і па тым узарваным мосце пагналі нас у горад. Зараз пачалі рэвізаваць — то гадзіннік спадабаўся, то нешта іншае... Патрымалі нас так да раніцы, а ў наступны дзень пагналі нас у мяцеліцу на зборны пункт. Гналі нас чацвёркамі, а калона гнаных расцягнулася на некалькі кіламетраў. Калі пераступілі шашу, заехалі тры „Вілісы" — вайсковы штаб. Затрымаліся на дарозе, а адзін стаў распытваць:

— Откуда вы?

— ..?

— Куда?

— Наверно домой, — адказаў я.

— Ну да, отправить вас домой, а кто будет за родину воевать?

Загналі нас на зборны пункт у якойсь даліне; стаялі там нямецкія канюшні. Было гэта недалёка якойсь вялікай станцыі. Палацык занялі штабісты і зараз пачалі нас правяраць — каго выпусціць, а каго вымучыць. Згналі нас па двaіх-траіх. У камісіі адзін дапытваў, а другі пісаў. Здаралася, што адзін з іх раптам ударыў пісталетам аб стол і крычаў: „Ты, сукин сын, ты работал в военной фабрике. Вот товарищ перед тобой говорил!.." І аказвалася, што сярод людзей былі трусы. І хапіла, што нехта сказаў нешта не так — адразу штрафная рота. І так перабралі нас усіх — дзве тысячы.

Мяне ўзялі на службу ў недалёкім медсанбаце. Але быў я там толькі тры дні, больш не вытрымаў. Бо як прывязуць раненага з разарванымі бакамі і жыватом, з кішкамі навонкі... Сказаў я доктару Някрасаву, што не магу там далей працаваць. Тады прыйшоў падпалкоўнік і да мяне: „Будешь!" А я: „Нет, не буду". То ён: „Так пойдёшь на фронт!" А я: „Пойду".

І зараз нас адзінаццацярых адправілі ў запасную часць на згаданай станцыі. Удзень быў быццам адпачынак, а ноччу ішлі разгружаць нямецкія вагоны: цукар, муку... Бралі мы крыху таго ў кішэні, але памятаю, што сыпаў дробны дожджык і ўсё нам размокла.

Каторайсь ночы прыехаў грузавік, а на ім аркестр. Другі самаход быў увесь засланы чырвоным палатном — прывёз палітрукоў. Нас выстраілі і давай асвядамляць: „Вы страдали, вас мучили, вы должны сейчас...". Музыка іграла і так нас узяло, што толькі давай немцаў, то іх зубамі будзем грызці...

Загадалі нам потым ісці на станцыю, пагрузілі ў адкрытыя вагоны разам з вазамі і коньмі ды павезлі на фронт. Даехалі да Познані, там цераз раку перапраўіліся па пантонным мосце. Пазней крыху нас абстралялі, але без больших клопатаў дабраліся пад Вроцлаў. Там праходзілі цяжкія баі. На Псім Полі трупаў было столькі, што спіхалі іх у ямы віламі каб хутчэй было. Недзе гаварылі, што канец вайны недалёка, але пастаянна было чуваць узрывы і страляніну.

Не атрымлівалі мы тады па вайсковай лініі ніякіх харчоў і наш камандзір батальёна гаворыць аднойчы мне: „Знаешь, Ковалёв (так мяне рускія называлі), пойди, возможно найдёшь что покушать". Аднойчы атрымаў я ад адной прадаўшчыцы, літоўкі, пяць кавалкаў масла, але калі вяртаўся, адабраў іх у мяне адзін рускі. Калі расказаў пра гэта капітану, той выкрыкнуў: „Убʼю!", але не знайшлі майго праследніка.

Неўзабаве накіравалі нас у Чэхаславакію. Заўсёды ішоў я спераду, бо выкарыстоўвалі мяне як універсальнага перакладчыка. Дайшлі амаль пад Прагу, калі было абʼяўлена, што вайна закончана. Палкоўнік паведаміў, што будзе парад. І зараз салдаты пачалі мыць у рацэ падкаўнерыкі. Што ж, у саветаў усё было бруднае — такая то была армія, дзедаўская. Чэхі спачатку ставіліся прыязна да саветаў, але пасля, калі мы маршыравалі, то людзі глядзелі на нас з акон і як толькі салдат кіраваўся ўвайсці на панадворак, адразу закрывалі вокны.

Канец вайны не быў канцом службы. Вярнуліся мы пад Вроцлаў і будавалі сабе баракі, казалі „на мірную абстаноўку". Разам з намі было каля двухсот нямецкіх палонных, а пасля дабавілі яшчэ двухсот украінцаў — дэзерціраў з войска. Судзіў іх ваенны суд, атрымлівалі па 10-15 гадоў. Некаторыя з нямецкіх афіцэраў адмаўлялі працы, а адзін то нават так мне сказаў: „Jeszcze będziesz boso do Moskwy uciekać". Аднойчы занадта расхадзіўся, то яго маёр-палітрук застрэліў. Іншыя палонныя, яго калегі абдзерлі яго з вопраткі, а калі пасля было ў той справе следства, то давалі паказанні ў карысць таго маёра, што яго забіў.

Пабудавалі мы баракі. Аднойчы, калі кухары рыхтавалі нам раніцай ежу, прыходзіць тэлеграма: „Грузіцца, паедзем у Японію". Цэлую ноч збіраліся, паравоз быў ужо пад парай, калі надышла вестка пра выбух атамнай бомбы над Хірасімай. У Японію тады не паехалі, толькі падаліся ў Венгрыю. Спярша мусілі перайсці горы, пасля ішлі цераз Аўстрыю. У Вене затрымаліся на тыднёвае абучэнне. Урэшце дабраліся ў Венгрыю, але там ніводнай канкрэтнай задачы не атрымалі. Вайскоўцаў у прынцыпе кватаравалі ў казармах, але мяне і некалькіх калег памясцілі ў доме пастара. Беспярэпынна ездзілі мы „па трафеях".



Ян Кавальскі з жонкай Яўгеніяй, лета 2006 года

Пастаянна меў я турботы са сваім прозвішчам. Не хацелі мяне пусціць дадому, бо запісвалі мяне „Ковалёв", а не Кавальскі, як павінна быць. Палітрук параіў мне, каб аднак не дазваляў змяніць прозвішча, бо тады мяне зусім не адпусцяць. Пісаў я тады прашэнні ў штаб, што з'яўляюся палякам, а не рускім. За трэцім разам нешта зварухнулася — далі мне білет у Маскву. Паехаў я са сваім капітанам, які сем гадоў не бачыўся з сям'ёю. Некалькі дзён былі мы ў Маскве, наведалі ягоных сямейнікаў. Урэшце, аднак, рашыў я адлучыцца і падаўся на Мінскі вакзал. За пяць рублёў „часовой" пусціў мяне на перон і паінфармаваў што і як. І так на даху вагона даехаў я ў Баранавічы. Па ўсёй дарозе бачыў я мноства ваеннага лому на палях. Ад Брэста да Высока-Літоўска ішоў пяшком. У Высокім на мяне напалі, здзерлі вопратку і забралі багаж. Урэшце, аднак, удалося мне неяк дабрацца дадому.

Наш сямейны дом у Шчытах-Дзэнцялове ацалеў, але стаяў пусты. Бацькі — Зіновій і Дамініка — ды сястра Маня ў 1944 годзе выехалі ў Савецкі Саюз. А я ж пісаў ім, каб нікуды не выязджалі, бо пасля не знойдземся. Толькі ў 1957 годзе ўдалося мне сустрэцца з маёй сям'ёю. Аказалася, што бацька зараз пасля прыезду ў Расію быў арыштаваны. Намагаўся супрацiўляцца тамашнім парадкам, хацеў сам гаспадарыць, што ў тадышні час было немагчыма. Замнога гаварыў і атрымаў дзесяць гадоў, з чаго адсядзеў шэсць. Мая сястра, калі выйшла замуж, забрала бацькоў да сябе, у Бабруйск на Беларусь. Так што я астаўся ў сваім доме сам. Рашыў стаць кадравым вайскоўцам. Быў ужо ня́дрэнна падвучаны, з'явіўся ў бельскі ВКР з задумай паступіць у вайсковую школу. На жаль, неўзабаве аказалася, што мая вайсковая кніжачка і іншыя дакументы нейкім чынам прыйшлі ў нягоднасць. Калі мне вырабілі новыя дакументы, то мала, што перайначылі дату нараджэння, то ў дадатак прызналі мяне не абучаным і здатным толькі для апалчэння. Я, аднак, заўпарціўся і рашыў дабівацца праўды. Пісаў у Маскву да адпаведных устаноў і за другім разам атрымаў пасведчанне, што служыў у войску толькі... адзін месяц.

* * *

Ян Кавальскі ажаніўся ў 1948 годзе і пасяліўся з жонкай у Кашалях. Працаваў на сваёй гаспадарцы, у кафлярні, быў добрым майстрам — будаваў людзям драўляныя і мураваныя дамы, рабіў сталярку. Памёр 1 мая 2011 года ад інсульту; верталёт забраў яго ў шпіталь, але таго бою не выйграў...

Запіс і фота
**Міхала МІНЦЭВІЧА**


Фота Адама Паўлоўскага

# Прытуліся да бярозы!

**Дрэнна сябе адчуваеш, не хапае табе энергіі, складаецца ў цябе ўражанне, што тваё цела працуе на павольнай хуткасці? Абдымі дрэва. Іх лячэбнае ўздзеянне на арганізм чалавека пацвярджаецца навуковымі даследаваннямі. Знаходзячыся ў прысутнасці дрэў і кустоў, стымулюеш свой арганізм да самавылечвання.**

Рэчывы, якія змяшчаюцца ў лісці, кветках і кары многіх дрэў, валодаюць бактэрыцыднымі, болесуцішальнымі і супрацьзапаленчымі ўласцівасцямі. Сокі і алеі паляпшаюць самаадчуванне і дадаюць сілу. Больш за тое, дрэвы іанізуюць негатыўна, нармалізуючы артэрыяльны ціск, паскараючы абмен рэчываў і расслабляючы нервовую сістэму. Дэфіцыт адмоўных іонаў пагражае асабліва жыхарам буйных гарадоў і людзям, якія працуюць у закрытых памяшканнях без раслін. Гэта выклікана сярод іншых камп'ютарамі, тэлевізарамі, выхлапнымі газамі і цыгарэтным дымам.

Гаючы эфект дрэў мае сваю навуковую назву — **сільватэрапія,** альбо дрэватэрапія. Гэты метад таксама выкарыстоўваецца для рэабілітацыі дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.

Прытульванне дрэва спрыяе больш хуткаму навучанню, лепшай памяці, паляпшае настрой і дадае энергіі. Самым эфектыўным дрэвам для чалавека з'яўляецца бяроза, а таксама ліпа і хвоя. Калі хочаш пераканаць сябе ў станоўчых эфектах лячэбнай тэрапіі, адпраўся на шпацыр па лесе. Паспрабуй абняць дрэва і абгарнуць яго нагамі. Дакрананне, пагладжванне і абдымкі садзейнічаюць вяртанню раўнавагі і першыя вынікі адчуеш ужо на працягу некалькіх хвілін.

Калі на двары ў горадзе ўбачыш, як хтосьці басаногім ходзіць па траве, абдымае дрэвы і ўнюхваецца ў іх, не падумай, што ён нейкі вар'ят-эколаг. Верагодна, ён практыкуе шынрын-ёку, японскае купанне ў лесе. Падчас каранавіруса ці пасля пандэміі людзі будуць шукаць хуткіх шляхоў адпачынку і здароўя нават на невялікай плошчы ў цэнтры горада.

Адной з самых супярэчлівых тэм падчас эпідэміі каранавіруса была забарона ўваходу ў лясы. Адны лічылі, што гэты рух неабходны для спынення эпідэміі, іншыя адзначалі, што лес з'яўляецца лепшым месцам для падтрымання сацыяльнай дыстанцыі. Для многіх лес — гэта месца палёгкі і адпачынку і нават аздараўленчай тэрапіі і, нарэшце, духоўных уражанняў.

І ў іх ёсць навуковыя падставы.

**Пітэр Воўлебен, адзін з самых вядомых лесаводаў у свеце, аўтар бестселера «Сакрэтнае жыццё дрэў» заклікае нас адчуваць купанне ў лесе ўсімі нашымі пачуццямі, атрымліваць асалоду і лекаванне ад лясных лазняў, купання ў лесе.** Уплыў лесу на дабрастан і, перш за ўсё, на здароўе даследаваў каля 30 гадоў японскі навуковец доктар Цын Лі з медыцынскай школы Ніппон (невялікі, прыватны, але прэстыжны ўніверсітэт для каля 600 студэнтаў), які таксама з'яўляецца старшынёй Японскага таварыства лясной медыцыны. Пераклад яго кнігі «Шынрын-ёку. Мастацтва і тэорыя купання ў лесе» нядаўна быў апублікаваны ў Польшчы. І ён ужо знаходзіць паслядоўнікаў. Першыя дарожкі і прагулкі па шынрын-ёку арганізуюцца фондамі, асацыяцыямі, блогерамі і ляснымі актывістамі. Афіцыйным членам INFOM (Міжнароднага таварыства прыроды і лясной медыцыны, якое займаецца шынрын-ёку) з'яўляецца доктар Кацярына Сіманенка, экскурсавод па Белавежскай пушчы, ілюстратарка, уладальніца студыі „Galeria Silva" і прыроднага фанпэйджа „Zapuszczeni / Beforested„. У 2019 годзе яна атрымала сертыфікат экскурсавода па лясной лазні Інстытута лясной тэрапіі і заснавала першы ў краіне цэнтр лясной тэрапіі. Ён працуе з пацыентамі ў псіхіятрычнай бальніцы імя Станіслава Дэрэша ў Харошчы, а таксама ў клініцы псіхіятрыі Медыцынскага ўніверсітэта ў Беластоку.

Амерыканцы таксама пачалі даследаваць уплыў лесу на здароўе. Аб даследаваннях доктара Лі пісалі аўтарытэтныя часопісы, у тым ліку «Time» альбо «Guardian». Моду на шынрын-ёку ці агульны кантакт з прыродай прасоўваюць знакамітасці і палітыкі: прынцэса Кейт Мідлтан, Опра Уінфры, Джасцін Бібер, Мішэль Абама і Хілары Клінтан.

Шляхі здароўя і «паркавыя рэцэпты» ўзнікаюць у дзяржаўных лясах і ў нацыянальных парках па ўсім свеце. Вядучыя краіны, у якіх распаўсюджваюцца лясныя купанні, уключаюць Паўднёвую Карэю альбо моцна лясістую Фінляндыю, дзе сацыяльныя праблемы, такія як алкагалізм і дэпрэсія, разглядаюцца сур'ёзна (важныя прычыны суіцыдаў у гэтай краіне). Лесатэрапеўтычныя цэнтры ў падобных формах ужо створаны ў Літве, Канадзе, Іспаніі, Нарвегіі і Францыі.

Шынрын-ёку нарадзіўся ў Японіі ў 1980-х гадах як нацыянальная праграма прафілактыкі і аздараўлення лесам для грамадзян, якія **адчуваюць стрэс**. Сёння ў краіне квітнеючых вішань (паводле розных звестак, 67-69 працэнтаў пакрыта лясамі) існуе больш за 60 сертыфікаваных аб'ектаў, якія з дапамогай лясных прагулак дапамагаюць знізіць тэхнастрэс (і канкрэтна знізіць узровень гармону стрэсу, то ёсць карызолу і адрэналіну). Лесатэрапеўты, якія працуюць у кансультацыйных цэнтрах, павінны адпавядаць шматлікім крытэрыям, пішуць планы па аднаўленні пацыентаў. Некалькі мільёнаў японцаў карыстаюцца іх паслугамі штогод.

Як даказаў доктар Цын Лі, які для сваіх даследаванняў атрымаў падтрымку японскага ўрада і леснікоў, кантакт з прыродай праз усе пачуцці паляпшае, сярод іншых, артэрыяльны ціск. Дотык і нюх — важныя элементы тэрапіі, калі ходзіш басаногім па траве, сталш на каленях на мокрым подсціле, абдымаеш дрэвы альбо абнюхваеш лісце, кару, кветкі ці лішайнікі. Калі слухаеш шолах галінак, вады ў ручаі і стук дзятлаў у кару дрэў. Гэта аказвае заспакаяльнае дзеянне на чалавека. Вецер ад лесу астуджвае нашу адкрытую скуру.

Сэнс не ў тым, каб «наведваць» лес, як музей ці галерэю, але выпрабаваць яго на ўсе магчымыя пачуцці, стаць яго часткай. Менавіта тады, у момант поўнага расслаблення, як даказвае японскі навуковец, наш арганізм пачынае выпрацоўваць больш NK (natural killer — **натуральных забойцаў**) клетак — да 50 працэнтаў. Прыродныя забойцы падтрымліваюць наш імунітэт супраць вірусаў, а таксама дапамагаюць змагацца з ракавымі клеткамі. NK робяць гэта з бялком пад назвай перфарын і ферментамі гранулізіны і гранзімамі. У Японіі рэкамендуюць лясныя ванны замест таблетак.

Аднак пры шынрын-ёку трэба пачаць з першага асноўнага этапу — пакінуць усе электронныя прылады (асабліва мабільныя тэлефоны!) у аўто, пажадана дома, перад ад'ездам у лясную лазню. Лес без пакрыцця можа быць лепшым рашэннем.

Нават калі не адразу адчуеш вынікі шынрын-ёку, памятай, што гэтая філасофія можа дапамагчы табе кіраваць часам і стрэсам, якія адчуваеш з-за пératамлення. Уплыў на развіццё лясной тэрапіі — як адзначае доктар Лі — аказалі дзве рэлігіі, якія дамінуюць у Японіі: сінтаізм і будызм, у якіх лес трактуецца як «месца кантакту з тым, што **боскае і святое**».

У напружанай тэхналагічнай і карпаратыўнай дынаміцы 1980-х гадоў у Японіі было нават прыдумана спецыяльнае слова «карашы» — смерць адператамлення. «Такім чынам, нас не павінна здзіўляць, што перагружаны японец пачаў шукаць перадышку ў лесе», — лічыць доктар Лі. Першы эксперыментальны цэнтр тэрапіі шынрын-ёку быў створаны ў 1982 годзе ў лесе Акасава.

Лясныя лазні ў Японіі прызначаюць не толькі людзям са стрэсам і пажылым людзям (у якіх высокі крывяны ціск), але і маладым людзям, якія навязліва ўжываюць сацыяльныя медыя (напрыклад, абнаўляючы свой профіль і дадаючы фотаздымкі альбо паведамленні) і не могуць адарвацца ад сваіх смартфонаў і планшэтаў. Лес — выдатная пляцоўка для дзяцей.

Шынрын-ёку — гэта не толькі тэрапія, але і своеасаблівая філасофія і самазахаваўчы тормаз, які дапамагае спраўляцца з сітуацыямі празмернага стрэсу. Гэта дапамагае вылечыць дэпрэсію, бессань і, нарэшце, палепшыць канцэнтрацыю і памяць. Шынрын-ёку — гэта не гонка, бег трушком ці горны паход, а яго супрацьлегласць. Ідэя заключаецца ў тым, каб хадзіць па лесе як мага павольней, абвастраючы свае пяць пачуццяў. **Зеляніна лечыць** хворых лепш чым бальніца. Навуковае даследаванне, праведзенае Роджэрам Ульрыхам у 1980-х гадах у ЗША, даказала, што сам пагляд на зеляніну паскарае выздараўленне пацыентаў, прыкаваных да бальнічных ложкаў. Яны адчувалі сябе лепш і радзей прасілі абязбольвальныя прэпараты, чым тыя, хто бачыў голыя сцены з вокнаў. У сваю чаргу навукоўцы з брытанскага ўніверсітэта Эксетэр даказалі, што нават пераезд у ваколіцах зялёных зон робіць людзей больш шчаслівымі. Доктар Лі заклікаў наведваць невялікія паркі ў абедзенны час, а таксама ўладкоўваць расліны дома ці ва ўстанове. Японскія навукоўцы прытрымліваюцца думкі, што ўдыхаючы лятучыя араматычныя рэчывы (фітанцыды, якія часам называюць прыроднымі антыбіётыкамі), выкінутыя дрэвамі і іншымі ляснымі раслінамі, мы прышчэпліваем арганізм ад хвароб. Фітанцыды бываюць бактэрыцыднымі і фунгіцыднымі. Сярод іх тэрпены з моцнымі водарамі: D-лімонен пахне лімонам, альфа-пінен валодае хваёвым водарам, бэта-пінен — вылучае арамат лячэбных зёлак, камфен — жывіцы.

Давайце прытуляцца да дрэў, качацца ў травах!

**Міра ЛУКША**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


Нінка Ганько з Варшавы



# Міфы
## старажытных беларусаў

**ВІХОР**: моцны стоўп паветра, які круціўся вакол сваёй восі і з вялікай хуткасцю перамяшчаўся над зямлёю ці вадой, захопліваючы дрэвы, будынкі, лодкі і караблі. З'ява прыносіла многа шкоды і патрат ды нават хваробу і смерць.

Для старажытных беларусаў гэтая паветраная стыхія явілася гульнёй нячыстай сілы. Казалі, што віхор находзіць тады, калі выскакваюць чэрці з пекла. Нячысцікі, ашаломленыя свабодай, дурэюць і спраўляюць баль або вяселле. Калі ў далечыні грымеў гром, то ў народзе лічылі, што віхор утварыўся з-за чарцей, якіх напалохаў Пярун. Яны патрацілі розум і ўцякаюць ад уладара грому ў жаху і паніцы ды як ачмурэлыя круцяцца вакол уласнай сярэдзіны.

На Падляшшы верылі, што віхор можна было выклікаць рэзкім свістам. Гэта было настолькі небяспечна, паколькі віхор мог скруціць чалавека і забіць яго. На такі подых не было ўжо лякарства і замоў, чалавек звычайна паміраў у пакутах. Калі нехта трапляў выпадкова ў сярэдзіну стыхіі, яму раілі легчы на зямлю і хрысціцца.

Усё, чаго дакрануўся дзікі вецер, не выкарыстоўвалі ўжо ў гаспадарцы. Калі віхор раскінуў плот ці стог сена, яго пакідалі на месцы, не дакраналіся. Верылі, што ад такой драўніны ці пашы захварэе сям'я ці жывёла.

*(Адрэзак адрэдагаваны паводле «Міфалогіі для дзяцей» А. Коршак)* **(гак)**

## Дранікі — як святочны пачастунак

Усе чакаем падарункаў і сюрпрызаў з нагоды свята дзіцяці. Многія цягнуць бацькоў у піцэрыі і кебабы. А ці падумалі вы, каб у падзяцы за падарункі самастойна падрыхтаваць бацькам пачастунак. Так, але ж гэта складана! Столькі ж працы... Ці сапраўды?

Сёння прапануем вам рэцэпт на бульбяныя дранікі. Гэта простая, смачная страва, якую любяць малыя і старыя. Кажуць, самыя смачныя дранікі — з маладой бульбы.

Мы ўпэўнены, што вашы бацькі будуць аблізваць са смакам пальчыкі і хваліць за хатні кулінарны шэдэўр.

**Складнікі:**

*1,25 кг бульбы.*
*2 сталовыя лыжкі мукі.*
*2 яйкі,*
*150 г алею*
*соль і перац да смаку*

Буйную бульбу абраць, памыць і нацерці на тарцы, перамяшаць яе з мукой і яйкамі, пасаліць і паперчыць. Аладкі сасмажыць на разагрэтай патэльні ў глыбокім алеі, з абодвух бакоў, пакуль зробіцца румяныя скарынка.

Есці са смятанай або кетчупам.

**(гак)**



*Міра ЛУКША*

## Радыска і дыска

Сягоння Нінка танцуе дыска,
у далонях Нінкі – гэта радыскі.
У суперрадысак – чырвоныя шчокі.
Пад бокі разам пайшлі ў скокі.

Ядуць радыскі мама і тата,
ва ўсіх ад гародніны застольнае свята –
чырвоныя губкі, румяныя шчокі.
Нінка ўхопіць радыску пад бокі.

Рада радыска, смяецца бабка,
бабка з радыскі зробіць салатку.
Бабуля Галя смачна гатуе,
унучка Нінка спрытна танцуе.

Бабця спявала ў «Васілёчках».
Спела радыска сабе ў радочку.
«З зоркамі танец» Нінка станцуе.
У ружовую шчочку яе пацалуем.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 22-20

**Бліснула,**
**Зламалася,**
**Дзесьці ўміг схавалася,**
**Ні дагнаць,**
**Ні след пазнаць —**
**Толькі водгулле чуваць.**
*(Ніл Гілевіч)*
**М......**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 7 чэрвеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 17-2020: гусь. Узнагароды, кашульку з лагатыпам Сустрэч «Зоркі», выйграў Адрыян Міхальчук. Віншуем!**

# Дзень дзіцяці ў Баброўскім парку



— Не будзе галерэй і піцы, не будзе караоке і пікнікаў з цукровай ватай, — заяўляе пяцікласніца Марыся. — Свята дзяцей аб'еду на веласіпедзе...

На веласіпедную вандроўку намовілі яе бацькі. А каб паездка не напамінала гарадской язды па веласіпедных сцежках, сямейка збіраецца наведаць Баброўскі прыродны парк.

Чаму якраз гэтае месца?

Усе памятаюць пажар, які ўспыхнуў у велікодны перыяд у тым жа парку. Згарэла амаль шэсць гектараў трыснягу, асакі, вербалозу і дрэў. Калі шалела стыхія, у сям'і Марысі проста вар'яцелі, моцна перажывалі прыродную катастрофу. Шкадавалі птушак, якія патрацілі гнёзды. Тады, менавіта, узнікла мара, каб наведаць гэтае месца. Вядома, пасля пажару. Паглядзець як прырода спраўляецца з патратай, ці палячыла ўжо свае раны.

Каб не палохаць птушак і звяры-ны, сямейка рашыла аб'ехаць парк на веласіпедах. Праўда, ідэя з роварамі спачатку здавалася няпростай. У сям'і пяць раварыстаў, а як жа даехаць з усім на месца? Бацькі прыдумалі спосаб, каб узяць толькі веласіпеды дзяцей. А для сябе пазычаць у агратурыстычным пансіянаце, дзе забраніравалі месца на начлег.

— Калі будзе на двары цёпла, вечарам запалім вогнішча, — марыць Марыся, — і мы, з братам і сястрой праспяваем зоркам і прыродзе нашу «Купалінку».

Святкаванне Дня дзіцяці на прыродзе — ідэя старая як свет.

— Калі мой бацька быў вучнем пачатковай школы, — цягне Марыся, — ён разам з класам ішоў на вандроўку ў лес. Экскурсія займала больш за палову дня. Ніхто не наракаў на стомленасць, бо тады ўсё яшчэ любілі бегаць, хадзіць нагамі. Яны нават не адпачывалі пасля доўгага маршу. Калі прыходзілі на паляну, там ладзілі конкурсы на гонкі. Аднойчы мой тата выйграў гумовы мяч і вельмі цешыўся такой узнагародай.

Марыся яшчэ не ведае, які падарунак купяць ёй бацькі. Яна сама марыць аб кніжцы або настольнай гульні пра птушак, якія жывуць у нашых лясах і лугах. Гэта было б цудоўнае дапаўненне веласіпеднай вандроўкі па Баброўскім парку.

1 чэрвеня — Міжнароднае свята дзіцяці. Частка вучняў адзначыць свята са школьнымі сябрамі. Якраз 25 мая адкрыліся школы ды пачаліся ўрокі для вучняў 1-3 класаў. Але ў школу пайшлі далёка не ўсе дзеці (усяго 16 адсоткаў вучняў у Падляшскім ваяводстве), апошніх датычыць абавязак дыстанцыйнага навучання. І пакуль, калі няма рэальнага шансу на вясёлыя гульні з сябрамі, трэба паставіць на задумы, якія можа ажыццявіць сям'я. Для тых, што захочуць святкаваць як Марыся, будзе што ўспамінаць гадамі!

Са святам — дарагія дзеткі!

Зорка

## «Вандроўная» раслінка на раны

У час вандровак па турыстычным шляху варта прыглядзецца раслінам.

Трыпутнік (па-польску: babka szerokolistna), цудоўная, гаючая раслінка. Яе прыкладваюць на лёгкія раны і, як прыкмеціў паэт Авяр'ян Дзеружынскі, яна вокамгненна гоіць скалечаныя часткі цела. Але не толькі. Напар з трыпутніку дапамагае на прастуду і кашаль. Таксама ў мінулых стагоддзях, калі прыходзіў голад, людзі спажывалі зярняткі расліны — яны прыклееныя на доўгім стаўбе-палачцы.

Трыпутнік ведаюць са старажытных вякоў. Расліна часта вырастае на палявых дарогах або на іх абочынах. Адтуль яе назоў — пуць, па-славянску, дарога. На Падляшшы трыпутнік называюць КАПЫТНІК. Як не цікава, гэтая назва таксама звязаная з дарогай. Раней, калі людзі ездзілі конным вазамі, сярэдзіна дарогі была прызначана для каня. Тое месца, дзе ступаў конь — а гэта была зялёная палоска з травой — называлі капытнікам. Там заўсёды можна было сустрэць і аднайменную раслінку.

Праўда, падляшская назва магла пайсці ад кшталту лісця, які сам па сабе напамінае капыт.

(гак)



### Трыпутнік

Пры дарозе,
Як пакутнік,
Нізка
Сцелецца трыпутнік,
Хто ідзе —
Лісточкі топча,
Пашкадуй
Яго ты, хлопча.
Сам пакутуе
Ён тут.
А ўратуе
Ад пакут.
Пакладзі яго
На ранку —
І загоіцца
Да ранку.

*Авяр'ян Дзеружынскі*

## Польска-беларуская крыжаванка № 22-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку №18-2020:**

Кадр, пакрака, прыгода, прыгода, рыт, ар, козыр, пар, упіска, кажух, Ас. Проза, капрыз, акрыты, рагоз, код, вада, Ас, арка, на, ар, Ас.

Узнагароду, беларускія наклейкі на кам-п'ютарную клавіятуру, выйграла **Эмілька Сцепанюк.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Kolorowy | Stowarzyszenie | Len | Jard | Rola | | Wózek / Wanilia | |
| | Cel | | | | | | | | |
| | | Ty / Brzoza | | | | | | | i.. |
| | Wendlina | | | | | | | | |
| Klan | | Do | | | Jaki | | | | |
| Link | | | | | | | Ostrze | | Sto |
| | | | | Puls | | | | | |
| Mama | | | | | As | | | | |
| | Niania | Imię | | | | | | | |
| Czasownik | | | | | | | | | |

**Славамір КУЛІК**
Гайнаўка



## Каханне застаецца

Смерць вядзе нас адсюль
Але каханне застаецца
Каханне застаецца з табой тут
Не губляй яго

Няхай будзе ў цэнтры
Не стаўце яго ў куткі
Слухайце яго шэпт
Клапаціцеся пра яго як пра Радзіму

## Калі ласка

Звычайны дзень кончыўся
Я чакаю заўтра
З Табою
Заставайся са мной
Як мага даўжэй
Калі ласка

## Мама

Магічнае слова
Першае слова
Самае дарагое
Найдалікатнейшае
Самае сапраўднае
Маці, любімая маці
Назаўсёды

## П'яны свет

Усё як учора
Толькі свет цыркулюе хутчэй
Толькі ты глядзіш
Пустымі вачыма

Паршывы лёс
Затапіў свет у гарэлцы
Краявід пустых бутэлек
Аж да гарызонту

## Герой

Чорны ці белы?
Герой ці бандыт?
Пакланіцца ці забыць?
Узяць на веру ці меркаваць?

Ахвяры заклікаюць да памяці
Злачынцам усталёўваюць помнікі
Свет не чорны і не белы.
Свет Буры і шэры




**Вера МАСАЙЛА**
Гайнаўка



## Недахоп натхнення

Нічога не выходзіць
Муза адышла
Пакінула мяне
адну
з мукай пачуцця
віны
што штосьці мушу
што я павінна
ды не даю рады
не магу
Шарыкавая ручка
шарпаецца
з лістом паперы...
Пэндзаль вылятае,
з ручкі
клеіцца да фарбаў...
Чакаю іскру вены
каб магчы
расказаць свет

## Кастрычніцкае змярканне

Халодныя далоні ветру
падпальваюць хмары
Сонца развітваецца
з празяблым лесам
і паспяхова шукае
начлегу
Чорная варона ўпусціла
з цяжкасцю здабыты арэх
Ён утапіўся ў залатым
ручайку лісця
Дрыжачыя далоні ветру
бязлітасна змятаюць
з дрэў
апошнюю карэспандэнцыю...
... робяць месца на новую,
мо больш цікавую
якой немагчыма
не захапіцца!

## Сумная рэчаіснасць XXI стагоддзя

Цэлы свет
на працяг
рукі,
а ў багатага
запрацаванага сына
няма месца і часу
для старэнькае
маці...
Свет цэлы
на працяг
рукі,
а ў чужым
куточку,
абціраючы слёзы
дарэмна чакае
вучоную дачку
перапалоханы
бацька...
Цэлы свет
на працяг рукі,
і толькі ў снах
матулі
жаданыя рукі
дарослых дзяцей
кранаюць і гладзяць
яе маршчынкі...
Цэлы свет
на працяг
рукі,
а ў выгодным
ды чужым
месцы жыхарства
горача моліцца
за шчасце дзяцей
адзінокая Маці...
... маленькая ўнучка
ўжо ведае
як дагадаваць
бацькоў!!!

**Зінаіда КАНДРАЦЮК**
Беласток



## Сёння

Ці ёсць правыя і няправыя?
Ці ёсць верныя і няверныя?
Ці ёсць вольныя і нявольныя?
Ці ёсць здаровыя і хворыя?
Ці ёсць вучоныя і менш вучоныя?
Ці ёсць добрыя і злыя?
Ці ёсць жывыя і мёртвыя?
Ці ёсць багатыя і бедныя?
Ці ёсць сёння фарысеі?
Ці ёсць сёння садукеі?
Ёсць сярод нас розныя людзі.
Ёсць і людзі прагныя ўлады, каб прыгнятаць слабых і іх знішчаць.

## Якім быць і як жыць?

Кожны малады ці пажылы скажа: хачу жыць і аглядаць сонца і быць шчаслівым і здаровым.

Каб мець здароўе і шчасце, трэба любіць усіх і ўсё, што Бог стварыў для дабра чалавека. Дзякаваць за кожную хвіліну дня, месяца, года.

Пасля таго, як памрэш, не ўбачыш гэтага свету — ані дня, ані ночы.

Жыві і не грашы, бо за грэх — смерць. Таму, што штораз больш грэшаць — маладымі ўміраюць.

Думаю, хто не грэшыць — жыве доўга і шчасліва.

Сяргей ЧЫГРЫН

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Двойчы развіталіся з Зачарлянамі

У сям'і Вячаслава Калодкі з Дзятлава захоўваецца акт-накладной ад 3 красавіка 1946 года, які быў выдадзены яго бацьку Калодку Уладзіміру Сямёнавічу з вёскі Зачарляны ў тым, што ён здаў наступныя сельскагаспадарчыя прадукты для атрымання такіх у БССР па месцы пасялення. Колькі і чаго пакінуў на радзіме спадар Калодка, цяжка ўжо прачытаць, таму што чарніла выцвіла і лічбаў амаль не відаць. Але ў надрукаваным акце ёсць жыта, пшаніца, сланечнік, насенне траў, бульба, капуста, сена і карова. Трохі бачна, што гаспадар здаў сена, бульбу, авёс замест жыта і больш нічога.

У Калодкі Уладзіміра Сямёнавіча было яшчэ тры браты — Мікалай, Іосіф і Іван. Усе яны нарадзіліся ў Зачарлянах. Уладзімір нарадзіўся ў 1914 годзе. Служыў у Войску Польскім. А аднойчы ён пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай Лідай з вёскі Фасты. Пажаніліся і, маючы вялікую прыватную гаспадарку, шчасліва жылі ў Зачарлянах. Але іх шчасце было нядоўгім, бо пачалася Другая сусветная вайна. І летам 1941 года на Беласточчыну прыйшлі немцы. А праз год маладую пару Уладзіміра і Лідзію Калодкаў з маленькім сынам Юркам і цяжарнай Лідай немцы адпраўляюць на прымусовую працу ў Германію. Іх прывезлі да баўэра Ляндэра ў вёску Дэксанда раён Шлосберг (цяпер Дабравольск Калінінградскай вобласці РФ). Гэта было першае сумнае развітанне з роднымі Зачарлянамі.



АКТ-НАКЛАДНАЯ №

(единая форма для всех заготовительных организаций)

«3» апреля месяца 194_ года по

_____ району _____

области выдан настоящий акт-накладная гражданину _____ (фамилия, имя и отчество)

эвакуируемого в БССР, проживающего ныне в _____ селе _____

района, _____ о том, что он сдал следующие сельскохозяйственные продукты для получения таковых в БССР по месту поселения.

| Зерновые культуры | Вес в килограммах | Натура в метровой ... | Сорная примесь | Влажность | Стоимость продуктов в рубл. по заготовительной цене ... |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- |

■ Акт-накладная на імя Уладзіміра Калодкі, які перасяляўся ў БССР



■ Браты Калодкі



■ Лідзія і Уладзімір Калодкі з сынам Вячаславам на Беласточчыне



■ Лідзія і Уладзімір Калодкі



■ Уладзімір і Лідзія Калодкі з сынам Вячаславам, які прыйшоў з войска

Пасля заканчэння вайны, Калодкі вырашылі вярнуцца на Бацькаўшчыну. Пры апытанні 7 красавіка 1945 года на праверачным пункце Кібартай (Літва) Уладзімір і Лідзія Калодкі сказалі і адзначылі ва ўсіх дакументах, што з імі на прымусовай працы знаходзіўся і іх двухгадовы сын Вячаслаў. Тое, што беларусы падчас вайны былі вывезены на прымусовую працу ў раён Шлосберг, пацвярджаюць і архіўныя дакументы з архіва КДБ па Гродзенскай вобласці, атрыманыя ў 1994 годзе сынам Уладзіміра і Лідзіі Калодкаў Вячаславам. Дарэчы, там ва Усходняй Прусіі памёр іх 8-гадовы сын Юрка.

Пасля перамогі над фашысцкай Германіяй, у маі 1945 года сям'я Калодкаў вярнулася на Беласточчыну ў родную вёску Зачарляны. Шчаслівая сям'я радавалася сустрэчы са сваімі роднымі людзьмі, а таксама з вяскоўцамі, якія засталіся жывыя пасля гітлераўскай акупацыі. Нарэшце, можна было спакойна жыць, працаваць, нараджаць дзяцей. Але шчаслівым для Калодкаў у Зачарлянах быў толькі адзін год. Беларусам пачалі пагражаць розныя польскія банды, якія не абмінулі і Калодкаў з Зачарлянаў.

У адзін дзень тры браты Калодкі пагрузілі, што маглі ў вагоны, і паехалі ў накірунку Наваельні на Дзятлаўшчыну. Але другі брат Іосіф падаўся за межы Беларусі ў Растоўскую вобласць, дзе працаваў у шахтах. Трэці брат Мікалай выехаць не паспеў і застаўся жыць у Беластоку. А Уладзімір і Іван прыехалі з сем'ямі на Дзятлаўшчыну. Першым прыпынкам для сям'і таго ж Уладзіміра Калодкі на дзятлаўскай зямлі стала вёска Яцвезь. Затым пераехалі ў Дзятлава ў выдзеленую для сям'і хату на цяперашняй вуліцы Чапаева. Там і пражылі старыя Калодкі свае астатнія гады жыцця. Па ўспамінах сына Уладзіміра Сямёнавіча, Вячаслава, бацька яго прывёз з Зачарлянаў добрага каня. Гэты конь дапамагаў тут выжыць. Запрагаў каня Уладзімір і вазіў людзям розныя заказы. Яго сын Вячаслаў закончыў 10 класаў Дзятлаўскай школы, паступіў у Прафесійнае тэхнічнае вучылішча № 11 горада Друя Віцебскай вобласці. Пасля атрымання ў 1962 годзе спецыяльнасці машыніста дызельных экскаватараў праходзіў практыку ў Скідзельскім будаўнічым міжкалгасным упраўленні меліярацыі. Адтуль быў прызваны ў рады Савецкай Арміі. Служыў планшэцістам у авіяцыйным палку знішчальнай авіяцыі на тэрыторыі Украіны ў горадзе Луцку. У званні сяржанта з медалём „20 гадоў Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне" вярнуўся на Дзятлаўшчыну.

Першым і адзіным (аж да выхаду на пенсію) месцам работы Вячаслава Калодкі стала ў Дзятлаве будаўнічае прадпрыемства „Міжкалгасная перасоўная механізаваная калона — 69", дзе ён

чытайце 10

9 ☞ працяг

працаваў машыністам экскаватара і на аўтамабільным кране. Таксама з'яўляўся прафсаюзным актывістам. З тых часоў у Вячаслава Уладзіміравіча захоўваюцца ўзнагароды: ганаровы знак Усесаюзнага цэнтральнага савета прафесійных саюзаў „За актыўную работу”, Ганаровая грамата Гродзенскага абкама камсамола. На розных участках работ не толькі ў Дзятлаўскім раёне, але і за яго межамі, Вячаслава Уладзіміравіча адзначалі як лепшага кранаўшчыка, неаднаразова прызнавалі і лепшым будаўніком. Самая дарагая ўзнагарода, якою ганарыцца не толькі ён сам, але і дзеці з унукамі — гэта Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета БССР за подпісам Сяргея Прытыцкага. Гэтую грамату атрымаў ён у верасні 1970 года. Сёння ў сямейным альбоме Калодкаў захоўваецца больш за дзесяць ганаровых грамат рознага ўзроўню — ад раённых да абласных, а ў 1971 годзе Вячаслаў Уладзіміравіч перамог у раённым конкурсе прафесійнага майстэрства.



■ Уладзімір Калодка са сваім зачарлянскім канём



■ Уладзімір Калодка ў Войску Польскім



■ Вячаслаў Калодка

Для паспяховай працы былі неабходны пэўныя веды, таму ў 1979 годзе Вячаслаў Калодка закончыў курсы павышэння кваліфікацыі. Працуючы на розных аб'ектах будоўлі, ён якасна выконваў даведзеныя заданні, а часцей — перавыконваў планавыя паказчыкі. За поспехі атрымаў званне „Ударнік працы”.

Перамогі на фронце мірнай будоўлі адбываліся ў многім дзякуючы надзейнаму тылу — сям'і. З жонкай, Марыяй Канстанцінаўнай, распісаліся ў кастрычніку 1967 года. На працягу сямі гадоў будавалі ўласны дом, дзе жывуць і цяпер. У гэтай зладжанай, гарманічнай сям'і выраслі двое дзяцей, падрастаюць трое ўнукаў.

Аб ліхалецці Вялікай Айчыннай вайны Вячаславу Калодку нагадвае нагрудны знак „Вязень нацызму”. З павагай блізкія адносяцца да дзевяці медалёў, якімі адзначаны Вячаслаў Уладзіміравіч, а ў 2019 годзе ён быў ушанаваны юбілейным медалём „75 гадоў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў”... Вось такі лёс аднаго з сыноў беларуса з Зачарлянаў.

Калі пакідалі родную Беласточчыну ў 1946 годзе, Вячаслаў Калодка не памятае: быў яшчэ маленькі. Толькі тое, што распавядалі яму бацька з маці. У сваім хатнім архіве ён захоўвае некалькі фотаздымкаў і архіўных дакументаў. Некаторыя з іх сёння публікуюцца.

Сяргей ЧЫГРЫН

# http://kimpress.by




Выходзяць у Беларусі газеты, сэнс існавання якіх амаль не праглядаецца. Звычайна гэта выданні разнастайных міністэрстваў і ведамстваў. Адной з такіх газет можна назваць выданне з гучным назваваннем „Культура”, сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://kimpress.by**.

Сайт газеты выглядае даволі прывабна. Там можна пабачыць фотаздымкі амаль да кожнага артыкула. Згодна Вікіпедыі, „Культура” змяшчае артыкулы аб выяўленчым мастацтве, кіно, літаратуры, музыцы, тэатры і тэлебачанні, па дойлідстве, гісторыі, фальклоры і этнаграфіі. Вось, праўда, са зместам большасці артыкулаў пры іх чытанні становіцца нейк сумна. Бо, чытаючы іх, ствараецца ўражанне, што яны напісаны людзьмі, якія нейк зусім далёка ад вострых праблем, стаячых перад культурай Беларусі. Апошнія артыкулы ў „Культуры” распавядаюць, у прыватнасці, пра рэпертуары тэатраў, разнастайныя святкаванні ва ўмовах каранавіруса і ўсяго, што так ці інакш тычыцца адзначэння 75-годдзя Перамогі над гітлераўскай Германіяй. Магчыма, гэтыя тэмы цікавыя для кагосьці, асабліва для чытачоў у высокіх кабінетах, аднак яны ніякім чынам не раскрываюць рэаліі культурнага жыцця ў Беларусі. А да іх, напрыклад, адносяцца такія як занядбанне аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны.

Адным з апошніх артыкулаў на сайце газеты ёсць «Промні „9 мая” ад завода „Луч”». Там ходзіць пра новыя гадзіннікі гэтага гадзіннікавага завода. Падаецца, што сур'ёзнае выданне не дазволіць сабе друкаванне рэкламнага артыкула без пазначэння аб гэтым. Аднак не. Фактычна рэкламны тэкст размешчаны як быццам бы журналісцкі матэрыял.

Калі цікаўны чытач захоча даведацца пра гісторыю газеты, яе мэты і задачы, то на сайце выдання зрабіць гэта немагчыма. З правага боку цэлага выяўлення знаходзіцца выйсце да рубрыкі «Газета „Культура”». Там месціцца інфармацыя пра тое, што яна выдаецца з кастрычніка 1991 года, а яе заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Таксама пералічаны сябры рэдакцыі, праўда, без галоўнага рэдактара і яго намесніка, і месцяцца кантакты. Гэта ўсё, што, па меркаванні выдавецтва „Культура і мастацтва”, якое выдае „Культуру”, трэба ведаць чытачам пра газету.

Шчыра кажучы, знайсці нешта цікавае пра дадзеную газету ў Сецыве таксама нялёгка. А гэта сведчыць пра бляклacць і малацікавасць зместу. Прычым на галоўнай старонцы сайта месцяцца артыкулы трохгадовай даўніны, актуальнасць большасці якіх даўно ўжо мінула.

Магчыма, адказы на пытанні — чаму з газетай так сталася і чаму вострыя пытанні культуры ўёй не ўздымаюцца, знаходзяцца ў стаўленні кіраўніцтва як да сябе, так і ўласна да чытачоў. Яскравым праяўленнем па-чыноўніцку ілжывых падыходаў былі паводзіны дырэктара выдавецтва „Культура і мастацтва” Ірыны Слабодзіч падчас нашумелай „справы Белта”. Тады, у 2018 годзе, шэраг выданняў, перш за ўсё незалежных, абвінавацілі ў несанкцыянаваным доступе да інфармацыі агенцтва Белта. Вобыскі закранулі многія рэдакцыі, у чысло якіх дзіўным чынам трапіла і газета „Культура”. Аднак, калі па каментарый да Слабодзіч звярнуліся журналісты іншых выданняў, яна адказала, што нічога не было. А праз некалькі гадзін пра вобыск у „Культуры” афіцыйна паведаміла следчыя органы.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з Календара

# 75 гадоў з дня нараджэння Аляксея КАРАЛЯ

Беларускі гісторык, палітолаг, рэдактар газеты „Новы час” Аляксей Кароль нарадзіўся 29 траўня 1945 г. у мястэчку Копысь (Аршанскі раён, Віцебская вобласць). Яго бацька, які родам з Бярэзінскага раёна, пасля фронту працаваў партыйным сакратаром і старшынёй выканкама Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці, пазней — дырэктарам бровара ў Маладзечне. Маці працавала настаўніцай.

Да сёмага класа Аляксей Кароль навучаўся ў школе Смаргоні. Школу скончыў у Маладзечне. У 1964-1967 гг., пасля сканчэння 10 класаў, цягам трох гадоў служыў танкістам у савецкім войску. Служыўу часткі, якая размяшчалася за мяжой у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы.

У 1971 г. Аляксей Кароль скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Кандыдацкую дысертацыю абараніў па тэме пасляваеннай акупацыі Нямеччыны ў 1945-1947 гг. Працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі Навук БССР, Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Аўтар трох кніг і манаграфій: пра Першую расейскую рэвалюцыю 1905-1907 гг., пра Другі з'езд РСДРП і пра Усевалада Ігнатоўскага. З яго гістарычных прац найбольш вядомая трэцяя кніга, якая была напісана ў суаўтарстве з Іларыёнам Ігнаценкам пад назвай „Усевалад Ігнатоўскі і яго час”. У канцы 1980-х гадоў Кароль пісаў даведачную інфармацыю пра рэабілітацыю Зміцера Жылуновіча і Усевалада Ігнатоўскага, а таксама іншых „нацдэмаў”, рэпрэсаваных у 20-30-я гг. ХХ ст.

Аляксей Кароль быў актыўным у беларускім партыйным жыцці. Адзін з заснавальнікаў Партыі народнай згоды, якая была створана ў красавіку 1992 г., пэўны час быў намеснікам яе старшыні (пазней гэтая партыя трансфармавалася ў праўладную фармальную структуру). Некалькі разоў Кароль быў ініцыятарам аб'яднання сацыял-дэмакратаў. У 2004 г. балатаваўся ў Вярхоўны Савет, вылучаўся кандыдатам у Маладзечне. У час кампаніі прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. быў даверанай асобай Аляксандра Казуліна і працаваў у яго штабе.

З 1992 г. выдаваў незалежную газету „Згода”, якую закрылі за два дні да выбараў 17 сакавіка 2006 г. — фармальна за перадрукаваныя карыкатуры на прарока Мухамеда. Па факце неабачлівага перадруку гэтых карыкатур была пачата крымінальная справа, у якой Аляксей Кароль быў сведкам. На 2001 г. Аляксей Кароль быў намеснікам старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная Грамада”. Гэтая партыя некалькі разоў перажывала раскол і дзялілася на часткі.

З 2007 г. Аляксей Кароль працаваў галоўным рэдактарам газеты „Новы час”. За працу ў гэтай газеце ён здабыў свой найбольшы аўтарытэт. 3 чэрвеня 2008 г. перамог у Міжнародным конкурсе журналістаў імя Найта, узнагароду за ўдзел у якім 12 лістапада ўручыў Міжнародны цэнтр для журналістаў (Вашынгтон, ЗША). У 2009 г. атрымаў узнагароду ў намінацыі „Вольная прэса ва Усходняй Еўропе” ад Фонду Цайт (Нямеччына) і Фонду Вольнага Слова (Нарвегія). Узнагарода была ўручана 3 чэрвеня 2009 г. у Нарвежскім Нобелеўскім Інстытуце ў Осла. У чэрвені 2015 г. выпусціў дакументальны фільм „1990-ыя: Як гэта было, і які шлях мы не прайшлі”. Тады Кароль змагаўся з ракам лёгкіх, але працягваў актыўна ўдзельнічаць у працы рэдакцыі і грамадскім жыцці Беларусі. Апошнія тры месяцы правёў у сям'і сына ў Сінгапуры, дзе праходзіў курс лячэння. Там памёр 12 верасня 2015 г. Прах пахаваны на мінскіх Паўночных могілках.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Пад вечар над ракою Нараўкай

Сонца хілілася на ніз. Рыбак сядзеў у цяньку ў кустоўі на беразе ракі Нараўкі (яна прыток больш вядомай ракі Нарва) і сачыў за паплаўкамі. Раптам слых яго ўлавіў лёгкі пошум. На супрацьлеглым беразе паявілася аднекуль маладая дзяўчына. Яна ішла, ішла і затрымалася каля густога купчастага куста, сцягнула з сябе джынсы, блузку, адшпіліла і кінула на куст ракіты чорны станік. Не адрываючы вачэй, вудзільшчык глядзеў на яе пухлапрывабны стан, прыгожыя поўныя грудзі.

Зусім як маці нарадзіла яна ўвайшла ў раку і, скалыхнуўшы нагрэтую за дзень сонцам ваду, паплыла, падставіўшы свае пругкія грудзі пяшчотам хваль. Перад ёю ўзнімаўся і трымцеў вясёлкаю веер пырскаў. Пасля нырнула і на момант знікла пад вадою. Вынырнула аднак хутка, борзда выскачыла на круты бераг ды спакойна і задаволена пачала выцірацца аранжавым ручніком. Рыбак любаваўся яе маладой прыгажосцю. А дзяўчына як скора паявілася, так і хуценька знікла. Нібы расплылася ў зіхотным сонцы.

Рыба не клявала. Малады вудзільшчык узяў свае вуды і пайшоў вытаптанай у траве сцяжынкай дадому. Сонца неўзабаве схавалася за лесам і пачалі цягнуцца прыцемкі. Буслы пачалі вяртацца з лугавін у свае гнёзды, дзе на стадолах, дзе на слупах. Над ціхаплыннай ракою пахаладзела. Над ляўкоўскімі сенажацямі паявіліся лёгкія хмурынкі туману. Яны з часам пачалі гусцець і гусцець. І ўжо не было відаць адзінокай прыхаванай лодкі ў зялёным трысці, ні павароту ракі. **(яц)**

## У маі пабольшала чытачоў „Нівы”

Сёлетнія майскія нумары 20 і 21 беларускага штотыднёвіка „Ніва” чыталі жыхары адзінаццаці вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Найбольш чытачоў гартала беларускі часопіс у Новым Ляўкове, Альхоўцы, Плянце і Семяноўцы. Па 1-2 экземпляры былі ў чытанні ў дзесяці вёсках. Завёз я газету дзякуючы дапамозе матарызаванага майго сябра Яўгена Алексеюка з Гайнаўкі.

20 мая гэтага года мы былі ў Беластоку і наведалі рэдакцыю „Нівы”. Спадарыня Галіна пачаставала нас кавай і падарыла пару экземпляраў новага нумара „Нівы” (якраз прывезлі з друкарні). Шаснаццаць экземпляраў двух нумароў прывезлі мне лістаношы з нараўчанскай пошты. Мой сябра робіць фотаздымкі і заўсёды мае пры сабе 2-3 фотаапараты. Такая ў яго прывычка. Ніўская журналістка Міра Лукша пацікавілася фотаапаратамі і папрасіла спадара Яўгена прысылаць здымкі ў рэдакцыю.

Майскія экземпляры роднага часопіса зацікавілі чытачоў і яны прасілі прыязджаць часцей і часцей. Цяпер у час пандэміі некаторыя аўтобусы не ездзяць м.ін. у Беласток, і вяскоўцы сядзяць дома. Я паабяцаў ім прывозіць „Ніву”. У сёлы, якія бліжэй ад Новага Ляўкова, месца майго пражывання, паеду на роверы. Мяне цешаць сустрэчы з чытачамі. Зараз напрыканцы мая было іх больш. У нашай гміне яны здаровыя і не было таго грознага віруса. Праўдападобна летам у нашай краіне пра яго мала будзе чуваць. Эпідэмія нас пакіне. **(яц)**

## Міхалова шукае зберажэнняў

Бургамістр Міхалова Марк Назарка сустрэўся 5 мая б.г. з дырэктарамі і кіраўнікамі муніцыпальных аддзяленняў. Размовы былі засяроджаны на дзейнасці, якая, як чакаецца, прывядзе да ашчаднасцей у муніцыпальным бюджэце.

— Мы маем справу са станам эпідэміялагічнай катастрофы і эканамічнымі абмежаваннямі, якія прывядуць да скарачэння даходаў гміны, — не сумняваецца шэф Міхалоўскай гміны. — У горшым выпадку гэта можа быць скарачэнне бюджэту да мільёна злотых. Для падтрымання працоўных месцаў неабходныя вялікія зберажэнні.

Таму плануецца зрабіць захады для эканоміі.

Усе павышэнні і ўзнагароды супрацоўнікаў былі прыпыненыя ў мэрыі і ў аддзяленнях. Супрацоўнікі таксама павінны скарыстацца ўсімі нявыкарыстанымі днямі адпачынку. Акрамя таго, у Міхалове будзе ўключацца вулічнае асвятленне паміж 21.00-00.30 гадзінамі, а ў глыбінцы паміж 21.00-23.00. Раней колькасць сесій і пасяджэнняў камітэта Гарадской рады ў Міхалове была абмежаванай, а сродкі на праграмы дапамогі будуць падтрымлівацца на ўзроўні 2019 года. Гміна таксама плануе скараціць выдаткі ў камунальнай сферы.

**(лук)**

## Работы ў Семяноўцы

У Семяноўцы ў Нараўчанскай гміне вядуцца дарожныя работы ў рамках гміннай інвестыцыі, звязанай з рэканструкцыяй і пашырэннем камунальнай дарогі № 107100Б — ад ваяводскай дарогі № 688 да чыгуначнай пераезду.

Адрамантаваны ўчастак т.зв. «Дарога да АІДы» — 2,123 км. Па паказаным маршруце па абодва бакі дарогі шырынёй 5,5 м (2 х 2,75 м) будуць зроблены гравійныя дарогі таўшчынёй 10 см. Існуючая жвірова-грунтавая паверхня будзе ўзмоцнена падсыпкай і паверхняй з асфальтабетону. Таксама будуць пабудаваны выхады на сумежныя нерухомасці (са шчэбеню) і з'езды на бакавыя дарогі (з асфальтабетону). Акрамя таго, будзе адрэгулявана вышыня створак для водаправода і тэлефонных скрынак, размешчаных у маставой, і будуць устаноўлены вертыкальныя знакі.




Вядуцца падрыхтовачныя работы асфальтавання паверхняў. Выканаўцам дарог з'яўляецца суполка MAKSBUD з Бельска-Падляшскага, а сама інвестыцыя ажыццяўляецца пры суфінансаванні з Фонду самаўрадавых дарог у памеры 1 414 520, 64 злотых. Кошт усяго мерапрыемства — 3 104 423, 64 злотых. Дарога павінна быць гатовая да 30 чэрвеня гэтага года.

тэкст і фота **(лук)**

## 31.05 — 06.06

**(22.03. — 20.04.)** Адвага, каб чэрпаць з жыцця тое, што найлепшае. Сутыкнешся з раздражняльнасцю і неразуменнем навакольных. Будзеш занадта эмацыйна ўсё ўспрымаць, што можа адбіцца на тваім здароўі. Парада берагчы нервы і пры стрэсавых сітуацыях вызваляцца ад дрэнных думак. У гэтым дапаможа табе новае хобі ці любая творчасць, якая па душы.

**(21.04. — 21.05.)** Не дай уцягнуць сябе ў ніякую фінансавую піраміду, не вер супепрамоцыям ці суперкрэдытам. Акунешся ў думкі і пагрузішся ў настальгію. Філасофскім асобам прыйдзецца гэты час па душы. Захочацца вышукваць у сабе праблескі ранейшых паводзін. Парада не загульвацца і жыць сучаснасцю. Многія з Быкоў захочуць адкрыць у сабе творчы патэнцыял, які прывядзе да поспеху.

**(22.05. — 22.06.)** Ты — каваль уласнага лёсу, і на ўсё мусіш зарабіць сам. Для таго, каб атрымаць нешта новае, Блізнятам прыйдзецца разграбаць старыя праблемы. Успомні пра ўсе праблемы, якія ты адкладаў у доўгую скрыню і прыступай да іх рашэння. Знойдзецца чалавек, які дапаможа. Як толькі завершыш усе старыя справы, з'явіцца месца для чагосьці новага і нязведанага — таго, чаго ты так доўга чакаў.

**(23.06. — 23.07.)** 31.05. завяршы ўсе важнейшыя справы. Пасля крызісу ўсё паправіцца. Ракі здолеюць перамагчы сябе і дараваць кагосьці за даўнія крыўды. Белы Пацук будзе задаволены тваім імкненнем стаць лепшым і змяніць сітуацыю вакол. Упэўненасць дапаможа пазбавіцца ад мінулых страхаў, якія перашкаджалі пачаць нешта новае. Не бойся перамен і ў добрым тэмпе рухайся наперад. Знойдуцца людзі, якія дапамогуць у новых пачынаннях.

**(24.07. — 23.08.)** Калі хто трапіць табе ў вока, знойдзеш спосаб, як захапіць яго сэрца. Але прыйдзецца спазнаць адзіноту з-за напружанай працы. Цяпер непажадана пачынаць нешта новае, лепш адкарэктаваць старое. Неабходна навучыцца стрыманасці і ўседлівасці (увесь май). Табе не захочацца прасіць чыёй-то дапамогі і падтрымкі, таму што будзеш упэўнены ў сваіх сілах.

**(24.08. — 23.09.)** Нечакана возьмешся за такія вырашэнні, якія адменяць тваё жыццё на лепшае. Чакае насычаны час, поўны сустрэч і беганіны. У пастаянных клопатах ёсць рызыка сутыкнуцца з падманам і прыкра прамахнуцца. Зоркі раяць быць больш асцярожнымі і пільнымі. Больш часу аддавай сабе і блізкім. Не забывайся выконваць рэжым сну і адпачынку.

**(24.09. — 23.10.)** Пераможаш свае шкодныя звычкі. Спакойна на працы, у школе. Шалі не раз сутыкнуцца з нейкім выбарам. Дзейнічай розумам, а не сэрцам, інакш нажывеш праблем. Прыйдзецца сутыкнуцца з супрацьстаяннем дома і на працы. Старайся не выносіць асабістага на ўсеагульны агляд і рабі так, як сам вырашыш. Не ідзі на павадку ў сяброў і сваякоў.

**(24.10. — 22.11.)** Не ўваходзь у непатрэбныя спрэчкі. Не мусіш даказваць іншым, чаго ты варты; рабі сваё. А за што возьмешся — мураваны поспех. Распазнаеш ворагаў, асабліва ў новай кампаніі. Збалансуй дыету. Трэба будзе добра папрацаваць. Чакаюць напружаныя дзянькі, якія ўсё ж дадуць свой плён у выглядзе даволі буйнога фінансавага прыбытку. Але цябе могуць абвінаваціць у тым, чаго ты не зрабіў. У любым выпадку не расслабляйся і трымай абарону.

**(23.11. — 22.12.)** З некаторымі сваякамі трэба будзе абыходзіцца як з яйкам. У канцы вясны ўсё будзе завязана на адносінах і сям'і. Прыйдзецца надаваць шмат увагі дзецям і пажылым сваякам. Твая адказнасць дапаможа ўмацаваць цёплыя адносіны. Чэрвень прынясе шмат станоўчых эмоцый, якія неабходныя ў жыцці. Зоркі раяць шукаць ва ўсім станоўчыя эмоцыі.

**(23.12. — 20.01.)** Спрыяе табе шчасце, не бойся параз. Чакае пазітыўны месяц, які не прынясе нечаканых і дрэнных навін. З лёгкасцю заваюеш любое сэрца і добра паставіш да сябе новых людзей. Твая камунікабельнасць дапаможа дамагчыся поспехаў, як у асабістай сферы, так і ў кар'еры.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш пазбавіцца таго, што цябе абмяжоўвае. Але не рабі сур'ёзных спроб змяніць што-небудзь. Як бы не хацелася навін, прыйдзецца крыху пачакаць. З'явяцца новыя магчымасці, якія нададуць інтрыг і хваляванняў за будучыню. Але чакаюць толькі добрыя навіны.

**(20.02. — 21.03.)** Шэраг поспехаў; зрэалізуеш планы, ужо спісаныя на страты. Малая параза на пачатку чэрвеня не знеахвоціць цябе да захадаў за ўзмацненне тваёй прафесійнай пазіцыі. Чэрвень стане добрым месяцам, які дасць шмат прыемных момантаў. Адчуеш новую хвалю жыцця, станеш часцей усміхацца і схочаш змяніць імідж. Белы Пацук ганарыцца тваім імкненнем да лепшага і пазітыўным мысленнем. Сустрэнеш шмат новых людзей, якія будуць карыснымі табе ў жыцці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**1.** абавязак вярнуць пазыку, **2.** панская павозка, **3.** частка твару з ноздрамі, **4.** зімовы месяц, **5.** большы гармонік, **6.** статак жывёл, у якім... чар, **7.** рэчыва для мыцця, **8.** Нарач або Балатон, **9**. стары сасновы лес, **10.** рытуальны рэлігійны дар бажаству, **11.** валодае левай рукой лепш чым правай, **12.** прадукт харчавання з Гасподняй малітвы, **13.** вялікі лясны масіў, **14.** ваяводскі горад на ўсходзе Польшчы, **15.** удзельніца абраду хрышчэння.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | | | | | | | | 3 |
| | 4 | | 5 | | | | | | | 6 | | | 7 |
| | | 8 | | | | | | | | 9 | | | |
| | | | | | 10 | | | 11 | | | | | |
| 12 | | | | 13 | | | | | 14 | | | | 15 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Шырыня, месяц, Об, вусач, шчэбет, міраж, мужчына, Сож, цар, гара, тэзіс, каса, пена, дыля, мякіна, вада, стараста, канат, сын, сякера.

Рашэнне: **Шчыры сябра з часам можа стацца гэтак жа непрыдатным як сваяк**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Полаўцы



■ Палавецкая царкоўка



■ Званіца

**Дзевяць гадоў таму быў я наведаў Полаўцы, калі акурат тамашні пагранпераход толькі збіраўся набіраць размах. Яшчэ не было папраўдзе нават пачатку багатага комплексу будынкаў, якія вызначаюць размер пагранкантролю на пагранпераходзе. Былі ўжо пачаты землярыйныя работы пад фундаменты будучых устаноў на нанава вызначанай граніцы. Граніца то там была, з невялікімі мадыфікацыямі, з 1945 года — граніца „дружбы" паміж СССР і ПНР. А ў бягучым стагоддзі/тысячагоддзі станавілася яна іншай якаснаеўрасаюзна-еўразійскай мяжой.**

Тады, дзевяць гадоў таму, цікавіў мяне можа не так той эмбрыянальны яшчэ пагранпераход, як царкоўка, што размяшчалася побач. Да яе можна было прайсці толькі цераз нашы польскія пагранустановы з кантролем дакументаў. Спадзяваўся я гэтага і цяпер. Аднак цягам дзевяці гадоў тамашняя тапаграфія крыху памянялася. Зона пагранперахода на некалькі метраў адсунулася ад царкоўкі і могілак побач яе і зараз туды свабодны доступ. На буйна разбудаваным пагранпераходзе цяпер не заўважыў я ніводнай жывой душы — ні пагранічнікаў, ні таможнікаў, ні кантрабандыстаў...

Падаўся я ў Полаўцы 21 мая, у дзень нябеснага заступніка тамашняй царкоўкі — Іаана Багаслова. Вернікаў сабралася пад трыццаць; прыехалі яны на легкавушках, на веласіпедах, на матаролеры — пакаленне сталага ўзросту. Тое пакаленне, якога блізкія пакояцца на тамашніх могілках. А могілкі тыя невялічкія — усяго шаснаццаць намагільнікаў. І толькі адзін з гэтага ліку з бягучага стагоддзя; выхадцы ў шырокі свет чакаюць Страшнага суда ў іншых некраполіях.

Хаця намагільнікаў на палавецкіх могілках мала, аднак адзін з іх адмыслова арыгінальны — у эпітафіі скандэнсаваны лёс нашага мясцовага насельніцтва. Можна пісаць абшырныя кнігі, а можна ў кароткай эпітафіі запісаць тую трагедыю, якая стагоддзем таму спасцігла нашых продкаў — смертаноснае бежанства. Сямейнікі пахаванага ў Полаўцах мужчыны спачылі ў Сібіры і ў Баранавічах. А колькі ж падобных ім таксама асталося навек у Баранавічах і на неабсяжных прасторах Усходу, дзе меў чакаць іх ратунак ад жахаў вайны...

Царкоўка, якая належыць Зубачоўскаму прыходу, крышку змянілася. Яна перакрыта новым дахам. Побач, на сціплым жалезным каркасе з'явіўся невялічкі звон. А побач яго павісла і тая ўдарная цыліндрычная прылада, якая раней выконвала ролю царкоўнага сігнальнага інструмента і вісела перад уваходам у прытвор. А на новым звоне прозвішча ахвяравальнікаў — з Самагрудскага прыхода. Выглядае, што з Самагрудскага ён, а з мясцовага — яна; пазнаёміліся яны і знайшлі сваю долю ў шырокім свеце, гэтак жа як і шматлікія пары нашых землякоў...

У „Слоўніку геаграфічных назваў Чаромхаўскай гміны" такая падаецца інфармацыя пра вёску, якая дала назву пагранпераходу: „У 1566 годзе, у час валочнай памеры, у абшары Палавецкай воласці быў закладзены фальварак Полаўцы. Новазаснаваны палавецкі фальварак атрымаў 21 валоку добрай зямлі. Фальварак размешчаны паміж вёскамі Сухары і Пяшчатка. Цягам вякоў фальварак тэрытарыяльна буйнеў. У 1890-х гадах фальварак быў распраданы. Зямлю купілі жыхары Бельскага і Пружанскага паветаў. Новыя жыхары не мелі нічога супольнага з патомкамі полаўцаў, г.зн. куманоў...".




■ Эпітафія

А кім жа ж былі тыя полаўцы? Было гэта вандроўнае племя, якое выводзілася з шырокага наваколля Алтая. У XI стагоддзі, два стагоддзі да мангольскага нашэсця ў Еўропу, завіталі яны ў прычарнаморскія стэпы. Тут таксама яны разглядаліся за новымі тэрыторыямі для свайго качэўнага побыту, урываючыся ў славянскія і візантыйскія землі. У 1078 годзе падышлі яны пад Адрыянопаль, сённяшняе Эдырне, каля Канстанцінопаля. Былі гэта рассеяныя плямёны, якія не стварылі суцэльнай дзяржаўнасці, але неслі пагрозу аселаму насельніцтву. Паводле XII-вяковага яўрэйскага падарожніка Петахіі з Рэгенсбурга, няма ў куманоў караля, толькі асобныя князі. Агульную тэрыторыю, на якой вялі сваё качэўнае жыццё полаўцы, ад Алтая па Карпаты, тадышнія летапісцы называлі Куманіяй. Персідскі гісторык XIV стагоддзя Хамдала Мустафі пісаў: „Куманія гэта адна з найбольшых краін свету. У адной яе часці такі холад, што немагчыма там жыць, а зноў у іншай такая спёка, што цяжка вытрываць". І з тае тэрыторыі паасобныя качэўныя групы полаўцаў нападалі на аселых суседзяў; для прыкладу — у 1096 годзе абрабавалі яны Кіева-Пячэрскую лаўру...

У XII стагоддзі, дзякуючы падтрымцы полаўцаў, балгары вызваліліся з-пад візантыйскага панавання. Іншыя паасобныя славянскія князі пры нагодзе таксама карысталіся ваеннымі паслугамі полаўцаў у міжусобіцах; чарнігаўскія князі далучалі полаўцаў да сваіх атрадаў у змаганні з кіеўскімі і суздальскімі князямі. Змаганне ноўгарад-северскага князя Ігара Святаславіча з полаўцамі знайшло адлюстраванне ў оперы Аляксандра Барадзіна „Князь Ігар"; найбольш папулярным яе фрагментам сталі „Палавецкія танцы"...

Гістарычная літаратура прыносіць крыху вестак пра побыт даўніх, яшчэ качэўных, полаўцаў. Коні займалі важнае месца ў іх жыцці. Яны разводзілі не толькі коней, таксама авечак, коз, вярблюдаў і кароў. Летам яны адпраўляліся са сваімі статкамі на паўночныя пашы, а зімою вярталіся на поўдзень. Некаторыя пачыналі аселы лад жыцця і займаліся кавальствам, рымарствам, вырабам вупражы, шавецтвам, кравецтвам, вырабам лукаў і стрэл да іх. Калі дакучала ім смага, пілі кроў з конскіх жыл...

Полаўцы займелі ў славян назву па палавых валасах. У цюркскіх мовах іх названне таксама выводзіцца з колеру: цюркскія словы *куман*, *кун* ці *коман* таксама абазначаюць бледна-жоўты колер; коні полаўцаў былі найчасцей менавіта такой масці... Славянскія ўладары вельмі цанілі красу палавецкіх жанчын і часта князі такім чынам радніліся з ханскімі сем'ямі, а гэта, у сваю чаргу, вяло да паступовага славянска-палавецкага прымірэння...

У польскай гістарычнай літаратуры хіба жыве яшчэ папулярны ў мінулым міф пра сталіцу яцвягаў у Драгічыне. Сандомірскі князь Баляслаў V Сарамлівы рушыў у 1264 годзе на іх, 23 чэрвеня адбіў быццам у іх Драгічын і Мельнік, а 24 чэрвеня каля Браньска расправіўся з яцвяжскім правадыром Куматам. У 1254 годзе ў Драгічыне каранаваўся Даніла Раманавіч і яцвягаў там не было. Не было іх там таксама і дзесяць гадоў пазней — іх прысутнасць у Драгічыне гэта выдумка Яна Длугаша, які жыў два стагоддзі пазней. І не Кумат, толькі *куман* быў праціўнікам сандомірскага князя; палеглі пад Браньскам не яцвягі, але палавецкія ваякі. Адкуль узяліся на Падляшшы куманы — будзе ніжэй...

Полаўцы завязвалі ваенныя саюзы са славянскімі князямі. У 1223 годзе спалучаныя палавецка-славянскія сілы былі разгромлены мангольскім войскам у лёсавызначальнай бітве на рацэ Калцы; у выніку крайнія ўсходнеславянскія княствы трапілі пад мангольскае панаванне. У ходзе чарговай хвалі мангольскага нашэсця ў 1237-1240 гадах полаўцы былі зноў разбіты, вымушаны ўцякаць перад новымі пераможцамі і прыручацца да аселага жыцця побач мясцовага насельніцтва. Шмат іх пасялілася ў межах Венгрыі, у раёне гор Матра, дзе яны захоўвалі сваю адметнасць аж да XX стагоддзя. Шмат іх асела таксама за Дунаем, на тэрыторыі Балгарыі.

У 1250-1251 гадах галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч запрашае полаўцаў у сваю дзяржаву для аховы яе паўночна-заходніх межаў ад яцвягаў, мазавецкіх і набіраючых у той час магутнасць літоўскіх князёў; верагодна гэта менавіта яны змагаліся супраць Баляслава Сарамлівага. Пасяляюцца яны на поўначы Берасцейшчыны, м.інш. у вобрубе сённяшніх Полаўцаў і навакольных вёсак, у тым ліку ў вобрубе прылягаючага да Чаромхі Ставішча. Выдзяляецца воласць, якую называюць Палавецкай. Існуе яна да 1926 года...

У 1945 годзе былую Палавецкую воласць раздзяляе дзяржаўная польска-савецкая граніца. Для насельніцтва памежнай зоны гэта лёсавызначальная падзея. Некаторыя сем'і перасяляюцца са сваіх спадчынных сяліб у зусім новае атачэнне. Перасяляюцца быццам па сваёй волі, выбіраючы тую дзяржаўнасць, якая здалася ім больш свойскай. Але ж вісела над імі і пагроза прымусовага высялення, якога гарачыя прыхільнікі апынуліся ва ўладных установах. Згаданы „Слоўнік геаграфічных назваў Чаромхаўскай гміны" прыводзіць адбіткі дакументаў пасляваеннага часу, часу станаўлення новай граніцы, часу масавых прымусовых перасяленняў людзей. Фрагмент (правапіс захаваны): „Należy stworzyć t.z. pas bezpieczeństwa w promieniu 20 klm. od granicy z któregoby się usunęło wszystkie mniejszości narodowe, utrudniające służbę granicznym władzom bezpieczeństwa przez tworzenie tajnych organizacji i kontaktowanie się z zagranicą. Przykładem tego są Opaka Wielka, os. Czeremcha, Bobinka, m-ko Kleszczele, Białowieża będące centrami separatystycznego ruchu białorusinów. Jako przykład podajemy zeszłoroczne zebranie na terenie gminy Kleszczele ludności białoruskiej, składający deklarację o oderwanie tych terenów od Polski i w obecnym roku staranie byłego wójta Białowieży. Te kilka ośrodków promieniuje na okoliczne osiedla i wskutek obsadzenia władz administracyjnych jak i bezpieczeństwa (M.O.) przez Białorusinów, stwarza takie warunki, że nawet element propolski przechodzi do przeciwnego obozu. Innym jeszcze powodem stworzenia takiego pasa, jest przenoszenie się młodzieży białoruskiej na teren ZSRR przy pozostawieniu na terenie przygranicznym swych rodziców lub blizkich krewnych, co w przyszłości, ułatwi akcję przemytniczą, tak i każdą inną. Powoduje to coraz częstrze nielegalne powrotne przekraczenie granicy przez białorusinów, którzy ewakuowali się do ZSRR na podstawie umowy Polsko-Sowieckiej o repatriacji, a którzy dzięki swym znajomościom i pokrewieństwom nie tylko przekraczają granice ale i przechowują się. Jako środek zapobiegawczy należy usunąć całkowicie ludność białoruską z tego pasa, wysiedlić ją przymusowo poza granice Państwa lub na tereny odzyskane indywidualnie a te osiedla zaludnić przez repatriantów. Wiele rodzin białoruskich tylko przez swoją niechęć do ustroju gospodarczego ZSRR a nie z powodu przywiązania do Polski w chwili wytyczenia granicy opuściło swe gospodarstwa przechodzące na rzecz Rosji i przeniosło się do swych krewnych lub znajomych zamieszkujących w t.z. pasie bezpieczeństwa, szerząc agitację że granica będzie jeszcze raz przesunięta za zachód. Niektórzy z nich obejmują dla zabezpieczenia się pracę w P.K.P. na stacjach pogranicznych (Czeremcha)". Гэты тэкст на адрас беластоцкага ваяводы скіравалі ў 1946 годзе працаўнікі бельскай Дзяржаўнай установы па справах рэпатрыяцыі...

Прапанаваныя чыноўнікамі меры тады не збыліся. Але з ходам часу насельніцтва памежжа само рассеялася па шырокім свеце. Ад полаўцаў асталася толькі тапанімія: назва невялікай вёскі ў Чаромхаўскай гміне, назва не надта буйнага пагранперахода і назва краёвай дарогі № 66 з Замбрава менавіта ў Полаўцы...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960